

НАР-КАМ-ЗЕМЛЯРОБСТВА БССР



# ПЛУГ











1928 МЕНСК КАСТРЫЧНІК № 10

## Да падпісчыкаў і чытачоў часопісі „Плуг“.

Для таго, каб часопісь „Плуг“ была больш карысным дапаможнікам усім падпісчыкам і чытачом яе пры палепшаньні і перабудове сельскай гаспадаркі, **рэдакцыя мяркуе выявіць як добрыя бакі часопісі, так і тое**, што **ў ёй не здавальняе чытачоў, каб гэтыя недахопы надалей зьнішчыць**. З гэтай мэтай, пры гэтым нумары, усім падпісчыкам рассылаюцца анкеты. **Рэдакцыя просіць усіх падпісчыкаў і чытачоў запоўніць анкеты і кінуць іх у паштовую скрынку** (можна бяз маркі). Свайго адрасу, хто дае адказы на запытаньні ў анкеце, можна не паказваць.

Апрача таго, рэдакцыяй часопісі ставіцца пытаньне шырокага абгаварэньня часопісі „Плуг“, правядзеньня так званага **„суду“ над „Плугам“** у друку, праз газэту „Беларуская вёска“.

Лічачыся з тым, што ў Беларусі, як **найбольш сельска-гаспадарчай краіне, павінна існаваць і быць пашыранай папулярная с-г. часопісь на роднай мове**, кожны навуковы працаўнік, прафэсар, аграном, зямельны працаўнік, селянін-дасьледчык і кожны падпісчык і чытач „Плуга“, **павінны выказацца аб яе недахопах і напісаць аб гэтым у газэту**, каб можна было ў далейшым гэтыя недахопы зьнішчыць. Пры гэтым, пажадана адзначыць і станоўчыя бакі часопісі, якія можна было-б браць прыкладам для складаньня яе надалей.

Пашырэньне с-г. ведаў сярод насельніцтва—справа ўсёй грамадзкасьці, таму патрэбна, каб кожны прыняў як мага больш удзелу ў пабудаваньні сталага дарадніка па сельскай гаспадарцы для сялянства.

**Дык пішэце-ж аб часопісі і для часопісі**.

„Суд“ над „Плугам“ пачынаецца зараз.

**Рэдакцыя.**

Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ПЛУГ

Навукова-папулярная часопісь сельскай і лясной гаспадаркі

Выходзіць раз у месяц

IV год выданьня Кастрычнік 1928 г. № 10



## На барацьбу за падвойны ўраджай.

**Сэкцыі, шырокія масы спэцыялістых—практычныя арганізатары барацьбы за падваеньне ўсёй сельска-гаспадарчай вытворчасьці.**

Ліпнёўскі Пленум ЦК УсеКП(б) па пытаньню аб „палітыцы хлебанарыхтовак, у сувязі з агульным гаспадарчым становішчам", выразна вызначыў асноўныя шляхі, па якіх павінна ісьці ліквідаваньне асноўных цяжкасьцяў у гэтай галіне: *„Забясьпечыць садзейнічаньне далейшаму ўздыму вытворчасьці індывідуальнай дробнай і сярэдняй сялянскай гаспадаркі... усё больш і больш ахопліваючы яго сеткай каапэрацыйных аб'яднаньняў і садзейнічаючы аб'яднаньню вытворчых працэсаў сялянскіх гаспадарак..."* Няўхільна праводзіць у жыцьцё пастаўленую XV-м Зьездам задачу *„аб'яднаньня і перабудовы дробных індывідуальных сялянскіх гаспадарак у буйныя калектывы"* як добраахвотныя аб'яднаньні, пабудаваныя на базе новай тэхнікі і... разьвіць існуючыя саўгасы і пабудаваць новыя зернявыя саўгасы як *„буйныя сацыялістычныя экономіі"* (з пастаноў ліпнёўскага Пленуму ЦК УсеКП(б).

У працы Аграсэкцый пытаньні вытворча-эканамічнага зьместу павінны заняць адно з цэнтральных месц усяе працы, канцэнтруючы ўвагу на:

а) Аб'яднаньні дробных сялянскіх гаспадарак у буйныя, машынізіраваныя, аграмаджаныя гаспадаркі, шляхам вытворчага каапэраваньня і непасрэднай калектывізацыі.

б) Узмацненьне і далейшае разьвіцьцё будаўніцтва саўгасаў і калгасаў.

в) Павялічэньне таварнасьці сельскай гаспадаркі.

г) Падвышэньне ўраджайнасьці палёў і вытворчасьці ўсіх галін сельскай гаспадаркі.

д) Машынізацыя, індустрыялізацыя і максымальнае прымяненьне агратэхнікі ў сельскай гаспадарцы.

Абгаварэньне пытаньня аб шляхох і мэтадах павышэньня ўраджайнасьці ў Беларусі, якое пачалося, павінна быць арганізавана ў сапраўды масавае абгаварэньне зьверху да нізу.



ЦБ Аграсэкцыі прыняло наступны парадак абгаварэньня гэтага пытаньня на мясцох па лініі сэкцый:

а) Абгаварэньне на спэцыяльна склікаемых сходах спэцыялістых у раёнах, дасьледчых станцыях, з шырокім удзелам сялянства, асабліва сялян-дасьледчыкаў.

б) Абгаварэньне на пашыраных пасяджэньнях Акрбюро сэкцый з удзелам гарадзкіх і раённых спэцыялістых.

в) Уключэньня гэтага пытаньня ў абвестку склікаемых акруговых канфэрэнцый у 1928 г.

г) Пастаноўку гэтага пытаньня на сходах сялян, рабочых саўгасаў і ў калгасах у „Дзень Ураджаю“.

д) Шырокі ўдзел мясцовых спэцыялістых у газэтным друку і часопісях „Сельская і Лясная Гаспадарка“ і „Плуг“ па гэтых пытаньнях.

е) Забясьпечыць кожны раённы і падраённы аграпункт, кожную савецкую гаспадарку часопісьсю „Сельская і Лясная Гаспадарка“ і „Плуг“; патроіць распаўсюджваньне часопісі „Плуг“ сярод сялянства.

Ініцыятыва выкананьня шырачэйшага абгаварэньня гэтай праблемы ляжыць на шырокіх масах спэцыялістых. На іх-жа ляжыць і задача сабраць—сыстэматызаваць усе практычныя прапановы—пажаданьні, якія будуць выказаны па гэтых пытаньнях.

*У барацьбу за падваеньне вытворчасьці ўсіх галін Сельскай Гаспадаркі павінна быць уцягнута ўся савецкая грамадзкасьць!*

*Ні адзін спэцыялісты ў баку ад гэтай адказнай справы!*

**Т. Аўчыньнікаў.**

г. Менск ЦП Саюзу
С-Г. і Л. раб.

Зьмяшчаючы артыкул старшыні Аграсэкцыі Саюзу Сельгаслеспрацаўнікоў т. Аўчыньнікава, з заклiканьнем усяе грамадзкасьці прыняць удзел у працы па абгаварэньню і правядзеньню мерапрыемстваў па перабудове сельскай гаспадаркі і падваеньні ўраджайнасьці, рэдакцыяй, для абгаварэньня гэтага пытаньня на старонках часопісі „Плуг“, вырашана ў далейшым адчыніць асобны аддзел: „Шляхі і спосабы падваеньня ўраджайнасьці ў БССР“, дзе-б аграном, прафэсар, навуковы працаўнік, селянін-дасьледчык і, наогул, карэспандэнты часопісі маглі выказаць сваю думку як гэтага можна дасягнуць і тэхнічна хутчэй ажыцьцявіць. Наступны № будзе ў большай частцы прысьвечан пытаньням падваеньня ўраджайнасьці. Паведамляючы аб гэтым, рэдакцыя просіць памянёных вышэй працаўнікоў прыслаць хутчэй свае артыкулы.

Акрамя гэтага, пажадана, каб працаўнікі па Калгаскаапэрацыі, як у цэнтры, так і на мясцох, пісалі ў „Плуг“ па сваёй галіне.

**Рэдакцыя.**



# Дасьледчая Станцыя і сяляне-дасьледчыкі, прымайце ўдзел у правядзеньні сьвята „Дзень Ураджаю“.

З году ў год Савецкая Ўлада і сялянства БССР праводзяць сьвята „Дзень Ураджаю“. Кожны год мы выяўляем свае недахопы і дасягненьні ў сельска-гаспадарчай вытворчасьці, але першы год мы рашуча і настойліва ставім пытаньне аб падвышэньні ўраджайнасьці. Шырока разгорнутая ў бліжэйшыя месяцы дыскусія аб шляхох і мэтадах падвышэньня ўраджайнасьці ў БССР, прымушае нас асабліва шырока выкарыстаць у гэтым напрамку сьвята „Дзень Ураджаю“. Гэты дзень павінен быць шырока выкарыстан Зямельнымі працаўнікамі і сялянствам для абгаварэньня ўсёй сыстэмы мерапрыемстваў эканамічнага і агратэхнічнага характару, якія дапамагаюць павялічэньню ўраджайнасьці.

У сьвяткаваньні „Дню Ураджаю“ асабліва важнае значэньне набывае ўдзел дасьледчых станцый і сялян-дасьледчыкаў. Часта ў глухіх мясцох, у цяжкіх варунках, сяляне-дасьледчыкі ўпарта вядуць працу па адшуканьню лепшых спосабаў для палепшаньня свае гаспадаркі і падвышэньня ўраджайнасьці. Перад дасьледчымі станцыямі стаіць задача, вывучыць усе гэтыя мерапрыемствы, каб потым прапанаваць ужываньне іх у кожнай гаспадарцы раёну, што дасьць павялічэньне ўраджайнасьці ў 2-3 разы.

Дасьледчыя станцыі выявілі, што ўраджаі ў 150-200 пудоў на дзесяціну ў БССР атрымаць можна. Але поруч з высокімі ўраджаямі на дасьледчых палёх, маюцца надзвычайна нізкія ўраджаі ў суседніх сялянскіх гаспадарках.

Трэба шырока азнаёміць саўгасы, калектыўныя гаспадаркі і ўсё сялянства ў „Дзень Ураджаю“ з тымі спосабамі вядзеньня сельскае гаспадаркі, пры ўжываньні якіх можна атрымаць падвойны ўраджай.

Тут, у першую чаргу, паўстае пытаньне ўгнаеньня глебы. Нашы глебы, за малым выняткам, надзвычайна бедны спажыўнымі матэрыямі. Гэтаму пытаньню дасьледчыя станцыі і сяляне-дасьледчыкі надаюць выключную ўвагу. Тут і пытаньні лепшага выкарыстаньня гною, лубіну, торфу, а таксама розных штучных угнаеньняў і нашых мясцовых выкапняў,—фасфарыт, вапна, крэйда, мэргель і інш., усё гэта займае пэўнае месца ў досьледах дасьледчых станцый і сялян-дасьледчыкаў. У гэтым годзе раённым аграномам, Інстытуту сялян-дасьледчыкаў і дасьледчым станцыям на гэту работу адпушчаны значныя сродкі. Усе, хто праводзіў гэтыя досьледы, у „Дзень Ураджаю“ павінны азнаёміць шырокія колы сялянства з вынікамі гэтых досьледаў. Кожны селянін павінен добра даведацца, як угнойваць зямлю, каб мець добры ўраджай.

На другім месцы па сваёй значымасьці трэба паставіць палепшаныя севазвароты. Гэтаму пытаньню асаблівую ўвагу ўдзяляе Горацкая с.-г. дасьледчая станцыя, але і другія станцыі маюць матар'ял па арганізацыі лепшых севазваротаў для свайго раёну.

Далей, занятыя папары і закладка штучных выпасаў, займаюць увагу дасьледчых станцый. Цяпер-жа папар у сялянскай гаспадарцы не дае ніякага прыбытку, бо нельга лічыць за прыбытак некалькі дзесяткаў пудоў розных сьметнякоў, якія растуць на дзесяціне позьняга

сялянскага папару і служаць для харчаваньня жывёлы ў летні час. Пытаньне закладкі штучных выпасаў асабліва шырока разгарнулася ў апошні год. Была дадзена дырэктыва з боку вышэйшых органаў аб закладцы 250 вучасткаў штучных выпасаў, з мэтай досьледу, у саўгасах, калгасах, мэліярацыйных т-вах і пасёлках. Ад закладзеных шматгадовых выпасаў ў гэтым годзе мы яшчэ ня будзем мець сталых вывадаў, але азнаёміць з імі насельніцтва і выкарыстаць досьлед закладкі штучных выпасаў для будучага году, гэта задача „Дню Ураджаю".

Вывядзеньне і спрабаваньне новых сартоў розных сельска-гаспадарчых расьлін, дасьледчымі станцыямі аддаецца шмат увагі. У гэтым годзе шмат сялян атрымала ад дасьледчых станцый невялікія пасылкі сартовага насеньня для спрабаваньня. Але як трымаюць сябе гэтыя сарты ў сялянскіх гаспадарках, у якіх раёнах і якія сарты даюць лепшы ўраджай, сяляне-дасьледчыкі, якія праводзілі гэтыя досьледы, павінны ў „Дзень Ураджаю" падзяліцца сваім вопытам з шырокай масай сялянства. Гэтым мы падрыхтоўваем глебу для ўвядзеньня лепшых сартоў, пасьля значнага іх размнажэньня, у сялянскую гаспадарку.

Правільныя прыёмы апрацоўкі глебы таксама павінны быць высьветлены сялянам у „Дзень Ураджаю". Гэта-ж датычыцца пытаньня ўжываньня пажніўных і падсяўных культур і высьвятленьня лепшых прыёмаў тэхнікі паляводзтва паасобных с.-г. культур. Тут паўстаюць пытаньні севазвароту, угнаеньня, сорту, тэрміну пасеву, нормы высеву, догляду, часу прыборкі і г. д. па кожнай культуры. Напрыклад, Палеская Дасьледчая Станцыя высьвятляе, што: на пясчаных глебах Мазыршчыны жоўты лубін разьвіваецца вельмі добра, а сіні лубін дае надзвычайна малую масу. Горацкая Дасьледчая Станцыя і Забалоцкая Балотная Гаспадарка сьведчаць, што асушаныя тарфянікі зьяўляюцца лепшым месцам для культуры канапель. Пры гэтым штучныя ўгнаеньні пад каноплі на балоце ўпаўне замяняюць сабою гной, якога, звычайна, у сялянскай гаспадарцы не хапае. Між тым, на мінэральных глебах каноплі патрабуюць значную колькасьць гною.

З новых культур трэба адзначыць у „Дзень Ураджаю" цукровыя буракі, з якімі ў гэтым годзе ў 42 пунктах БССР закладзены дасьледчыя вучасткі на дасьледчых станцыях, саўгасах і балотных апорных пунктах. Цукровыя буракі ў гэтым годзе разьвіваюцца надзвычайна добра. Але перш, чым гаварыць аб арганізацыі цукровай прамысловасьці, трэба намеціць раёны культуры і азнаёміць сялянства з прыёмамі культуры цукровых буракоў.

Магілеўская Дасьледчая Станцыя лекавых расьлін мае ўжо значны вопыт па разьвядзеньню лекавых траў і ў гэтым годзе нарыхтавана шмат насеньня для пасеваў у калгасах і сялянскіх гаспадарках. Надзвычайна працаёмкія культуры лекавых траў, могуць даць значны прыбытак сялянству і павялічыць экспарт лекавых траў за межы. У гэтым годзе па БССР ёсьць даволі значная колькасьць досьледаў у сялян-дасьледчыкаў па культуры лекавых траў і з вынікамі іх работы патрэбна азнаёміцца ў „Дзень Ураджаю".

Таксама і па іншых галінах—садоўніцтву, гародніцтву, лугаводзтву (на Турскай Станцыі), культуры балот, жывёлагадоўлі і г. д. дасьледчыя станцыі і сяляне-дасьледчыкі змогуць азнаёміць сялянства з вынікамі сваёй работы. Пры гэтым па садоўніцтву трэба асабліва адзна-

чыць выдатныя работы дасьледчыкаў — Мароза ў Лепельшчыне і Сыцько ў Мазыршчыне.

Вось тыя галоўныя моманты, якія павінны адбіцца ў працы дасьледчых станцый і сялян-дасьледчыкаў у „Дзень Ураджаю“.

На раённых с.-г. выстаўках, у с.-г. гуртках, або іншым шляхам, дасьледчыя станцыі і сяляне-дасьледчыкі павінны паказаць шырокім колам сялянства свае вынікі і падзяліцца вопытам свае працы.

**М. Савіцкі.**

---

# За пашырэньне часопісі „Плуг“.

За Кастрычнікавай Рэвалюцыяй працоўныя Беларусі праводзяць культурную рэвалюцыю і перабудову сельскай гаспадаркі на сацыялістычны лад. У змаганьні за новыя формы гаспадараньня, за палепшаньне тэхнікі сельскай гаспадаркі селяніна, за павялічэньне ўраджаю, да падвойнага, г. зн. у змаганьні за аграрную рэвалюцыю, павінна прыняць належны ўдзел уся савецкая грамадзкасьць.

Высокага падвойнага ўраджаю мы дасягнем хутчэй, калі сярод сялян будуць пашыраць с.-г. веды. Толькі пры належным азнаямленьні сялянства з пытаньнем каляктывізацыі можна хутчэй дабіцца большага ліку абагульненьня дробных салянскіх гаспадарак у рознага віду аб‘яднаньні. Сваю асноўную мэту выканаюць і саўгасы таксама, калі іх вынікі будуць вядомы ня толькі адным кіраўнікам гэтых гаспадарак, але і ўсім жыхаром вёскі. А якім-жа мэтадам хутчэй пашырыць веды аб ужываньні штучных угнаеньняў (вапнаваньне, фасфарытаваньне), прымяненьне, торфу і г. д.?

У гэтай справе значную ролю адыгрывае с.-г. друк. Прыкладам уплыву друку на палепшаньне сельскай гаспадаркі можа служыць такая краіна, як Нямеччына. Там выдаюцца не адна, ня дзьве і не дзесятак, а больш паўтары сотні с.-г. часопісяй. Кожнае новае дасягненьне ў сельскай гаспадарцы, як у дасьледчых установах, так і ў звычайнай гаспадарцы, зараз-жа становіцца вядомым усім і зараз-жа пачынае ўжывацца ўсімі гаспадарамі, бо там часопісі чытаюць усе гаспадары, затое і ўраджаі там атрымліваюць у два разы вышэй за нашы.

У нас такую ролю можа адыграць часопісь „Плуг“,—зразумела, пры належных адносінах да яе аграномаў, зямельных і інш. працаўнікоў, а разам з імі і сялянства. І ня толькі такую, але далёка большую, бо задачы нашай савецкай улады значна шырэй.

Ужо скора чатыры гады як існуе „Плуг“, скора чатыры гады, як нясе ён на сваіх старонках агранамічныя веды ў вёскі. „Плуг“ хоча зьнішчыць з сялянскіх гаспадарак сохі, якія яшчэ маюць у нашай краіне значны лік, хоча, каб сапраўдны плуг стаў уласьнікам на палёх селяніна, і каб самому стаць неабходным дараднікам новых, лепшых спробаў гаспадараньня кожнаму селяніну.

Нарадзіўся „Плуг“ толькі дзякуючы Савецкай уладзе. Да гэтага-ж часу ня толькі часопісі, але і кніжак па сельскай гаспадарцы на роднай мове ня было. Між тым неабходнасьць у іх значна адчувалася ў сялянства. Гэта можна бачыць з таго, што калі якая кніжка на роднай мове раней трапляла ў вёску, дык грамацеі чыталі яе цэлай

грамадзе па некалькі раз. Кніжка зачытвалася аж пакуль зьнікалі літары, перапісвалася зноў і такім чынам распраўсюджвалася далей.

Да Кастрычніка ўвесь той нязначны лік беларускіх кніжок друкаваўся альбо за кошт аўтара, альбо на ахвяры прыхільнікаў да беларускае мовы. Кніжкі былі тоненькія і выдаваліся ў невялікім тыражу. Найбольш гэта была мастацкая літаратура.

Але вось прышоў Кастрычнік і шырока адчыніў дзьверы для друкаванага слова. Усякая новая думка, новае дасягненьне навукі і практыкі ў той ці іншай галіне робіцца скора вядомай усім, хто гэтым цікавіцца, хто не замураваў сябе ў старых, адміраючых умовах.

Што-ж было да рэвалюцыі ў адносінах с.-г. ведаў на вёсцы, што рабілася ў гэтым напрамку?

Ды амаль нічога. Сялянская гаспадарка раней ішла вобмацкам. Што кольвечы ўводзілася новае, але гэта рабілася, у большасьці выпадкаў, падгледзеўшы ў суседніх панскіх дварох. Да рэвалюцыі хоць і была вучастковая аграномія, але замацаваных пасьля сябе вынікаў яна пакінула мала.

Цяпер зусім па іншаму: аграномы ёсьць на вёсцы і працуюць стала, але пакуль што ў такім невялікім ліку, што дапарадзіць кожнаму гаспадару па ўсіх справах і даць адказ на кожнае пытаньне, якое паўстае ў гаспадара, ня здолеюць, бо многа гаспадарак у іх раёне. Вось тут і ідзе на дапамогу аграному с. г. часопісь „Плуг“.

У першыя гады Кастрычнікавай Рэвалюцыі адносна с.-г. часопісі думаць ня прыходзілася. Перш за ўсё неабходна было замацаваць на Беларусі Савецкую ўладу, прапагандаваць, растлумачыць палітычна мала сьведомаму сялянству мэты і задачы Савецкай улады. А потым ужо увага зварочвалася на адбудову разбуранае гаспадаркі, хоць бы даваеннага ўзроўню. Тут-жа гэтаму былі няспрыяючыя ўмовы дзьвюх папераменных акупацыяў—нямецкай і белапольскай.

Неабходнасьць с.-г. часопісі на роднай мове для сялянства ўлічвалася амаль усімі с.-г. навучальнымі ўстановамі. Кожная з іх складала пад тэй ці іншай назвай сваю с.-г. часопісь, але яны так і засталіся ў рукапісных сшытках, бо надрукаваць, за адсутнасьцю сродкаў, ня было магчымасьці.

Але вось узмацнела наша рэспубліка і пажаданьне яе лепшых сыноў збылося. Ужо зараз чатыры гады існуе с.-г. часопісь „Плуг“. Часопісь з першых сваіх нумароў пачала выкарыстоўваць багаты сялянскі досьлед, якога за тысячагадовы пэрыяд гаспадараньня набралася многа. Больш вытворчы матар'ял упарадкоўваецца, патрэбнае пакідаецца, а замест аджыўшага прапануецца новае, неабходнае для хутчэйшага ўздыму сялянскае гаспадаркі.

Вынікам сялянскага досьледу, па розных галінах сельскай гаспадаркі, у часопісі адводзіцца значнае месца. Дзеля гэтага кожны нумар мае асобны аддзел па сялянскаму досьледу. У гэтым аддзеле сяляне дзеляцца з чытачамі сваімі дасягненьнямі і досьледамі, якія праведзены ва ўмовах звычайнай сялянскай гаспадаркі, на аднолькавых з наўкольнымі палямі суседзей.

Паволі і з часам зьмяніўся погляд на часопісь аграномаў і іншых працаўнікоў па сельскай гаспадарцы. Пачалі і яны зьмяшчаць больш сваіх артыкулаў ў часопісі, пачалі неабходныя мерапрыемствы прапанаваць праз друкованае слова на старонках „Плуга“. Не засталіся бяздзельнымі і навуковыя працаўнікі, прафэсары і інш. Яны таксама

зьмяшчаюць навуковыя веды па розных галінах сельскай гаспадаркі ў папулярнай форме для сялян.

Але, нажаль, ня ўсе аграномы і зямельныя працаўнікі добра ўявілі сабе тое, што ў нашай, найбольш с.-г. старонцы, неабходна прапанова найхутчэйшай зьмены старых спосабаў гаспадараньня на новыя ўсялякімі мерамі і што с.-г. часопісь у гэтай справе адыгрывае вялікую ролю.

Ня ўсе аграномы і зямельныя працаўнікі ўявілі сабе тое, што кожны гаспадар Беларусі павінен карыстацца мясцовай часопісьсю, дзе ўсе мерапрыемствы, якія прапануюцца, дасьледваны ў такіх-жа ўмовах, у якіх і ён вядзе сваю працу.

Трэба, каб кожны аграном, зямельны працаўнік і кожны гаспадар лічыў часопісь сваёю. Трэба, каб кожны лічыў абавязкам хоць раз у год зьмясьціць сваю думку ў ёй, вынік свайго ўплыву на сялянства, сваю прапанову, што трэба зрабіць і як.

Калі аграном ці зямельны працаўнік заўважыў, ці заўважыць у далейшым недахопы часопісі, дык ня трэба праз гэта, атрымаўшы па свайму погляду адмоўнае ўражаньне, закідваць яе назаўсёды. Лічачы часопісь сваёю, трэба зараз-жа пісаць аб гэтым, зьнішчаць недахопы, выпраўляць памылкі. Толькі ў такім разе часопісь будзе карысным дараднікам гаспадару і памоцнікам аграному ў яго штодзённай працы.

Але той, хто будзе адзначаць недахопы і памылкі часопісі, павінен таксама зьвярнуць увагу і на яе станоўчыя бакі. Для прыкладу ўзяць хоць бы тое,—што часопісь першая адшукала і згуртавала навакол сябе асноўную групу сялян-дасьледчыкаў, якія ў далейшым аб'яднаны ў сталую арганізацыю—Інстытут Сялян-Дасьледчыкаў пры НДІ, імя У. І. Леніна.

Відаць, што не цягнецца наш „Плуг“ у хвасьце часопісяй і газэт, ня толькі Беларускіх, а нават і Расійскіх, у пытаньнях па сельскай гаспадарцы, маючых шырокае палітычнае значэньне. Належыць адзначыць, што пытаньне, як дабіцца падвойнага ўраджаю ў сельскай гаспадарцы, часопісь „Плуг“ падняла яшчэ ў красавіку м-цы. Але наша грамадзкасьць на гэта не зьвярнула ўвагі, хоць там і запрашаліся працаўнікі для абгаварэньня гэтага асноўнага ў с.-г. пытаньня. Толькі значна пазьней, пасьля дырэктыў асяродкавых устаноў Партыі, ураду і Саюзу Беларусі, пачалося абгавораньне і „гэтага магутнага фактару ў савецкім будаўніцтве“. Можна было-б больш дадаць прыкладаў, як напр. тое, што матар'ял часопісі зьмяшчаецца ў замежным друку, што артыкулы цалкам зьмяшчаюцца ў чытанках (хрэстаматыях) і іншых зборніках і г. д., але няхай аб гэтым скажуць іншыя.

Зараз НКЗ ставіць мэтай, каб да 1-га сакавіка 1929 г. тыраж „Плуга“ дасягнуў ня менш як да 10 тысяч. І гэта зрабіць неабходна. Выканаць гэта можна толькі тады, калі ўсе аграномы, зямельныя працаўнікі і ўся савецкая грамадзкасьць на вёсцы прымуць належны ўдзел у пашырэньні падпіскі на часопісь „Плуг“. Ні адзін сход сялян, сход сялькораў, ні адна гутарка агранома, лесавода, вэтурача з сялянамі не павінна прайсьці без таго, каб не абгаварылася пытаньне аб пашырэньні падпіскі на „Плуг“ Кожная хата-чытальня, с.-г. гурток, аграпункт, школа 4-х годка і сямігодка, с.-г. і пэдагагічны тэхнікум, кожны калгас, лясьніцтва і рознага роду т-ва, павінны быць падпісчыкамі „Плуга“.

**Дык выканаем-жа, таварышы, свой грамадзкі абавязак! Дружна бярэмся за збор падпісчыкаў на часопісь „Плуг“!**

**За 10 тысячны яго тыраж!** Саф. Хоміч.

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Аб вапнаваньні палёў.

Беларускія глебы адзначаюцца беднасьцю пажыўных матэрый для расьлін і дрэннымі ўласьцівасьцямі. Кожнаму вядома, што яны ня маюць дробна-глыбкаватай пабудовы і адзначаюцца кісласьцю. Бязумоўна, што ў першую чаргу патрэбна зьнішчыць гэтыя дрэнныя ўласьцівасьці, бо пры такім становішчы ніякія ўгнаеньні не дадуць належнага павялічэньня ўраджаю.

На дапамогу гаспадару ў гэтым напрамку, акрамя гною, якога ў гаспадарцы не хапае, можа прыйсьці вапна і крэйда. Вядома, што на Беларусі гэтыя карысныя выкапні знаходзяцца ў значнай колькасьці.

Які-ж уплыў маюць на глебу гэтыя карысныя *выкапні?*

Яны маюць ўплыў на глебу ў шмат якіх кірунках:

1. Вапна зьмяняе фізычныя ўласьцівасьці глебы: робіць яе дробнаглыбкаватаю і пульхнаю. Цяжкая, або прыпадлівая глеба робіцца больш мяккай, а пескаватая—больш зьвязваецца і цьвярдзее. А вядома, што як прыпадлівая, так і пяскавая глеба дрэнна для гаспадараньня. Першая затрымлівае ваду, а адгэтуль робіцца занадта вільготнай і халоднай, а пяскавая хутка траціць вільгаць.

2. Вапна зьнішчае ў глебе кісласьць, якая часта зьяўляецца шкоднаю для расьлін.

3. Добра ўплывае вапнаваньне і на жыцьцё самой глебы ў тым, што яна спрыяе жыцьцю і працы карысных для земляроба мікробаў у глебе (вапнаваньне павялічвае працу нітрыфікуючых або награмаджаючых азот бактэрый) і яшчэ шмат другіх уласьцівасьцей глеба набывае пры вапнаваньні.

Недахоп вапны ў глебе можна вызначыць па расьліннасьці. Звычайна на кіслых глебах растуць у значнай колькасьці расьліны—кісцалюбы, напрыклад: шчаўе дробнае, шпэргель, нівянік, хвошч, а на сенажаці: мох, асака, сітнік і інш.

Досьлед Вяцкай дасьледчай станцыі (Справаздача за 1916 г.) з вапнаваньнем пад жыта даў наступнае:

Сярэдні ўраджай

| Назва ўгнаеньня / Ураджай | Бяз гною | Гной 1200 п. | Гной 2400 п. | Гной звыш 3600 п. |
|---|---|---|---|---|
| Зерня . . . . . . . . . | 100-00 | 137-20 | 141-20 | 140-00 |
| Саломы . . . . . . . . | 163-35 | 175-20 | 232-20 | 195-00 |
| Усяго . . . | 263-35 | 313-00 | 374-00 | 335-00 |

| Ураджай \ Назва ўгнаеньня | Вапна 120 п. | Вапна 240 п. | Вапна 480 п. | Вапна 960 п. |
|---|---|---|---|---|
| Зерня . . . . . . . . . | 129-00 | 249-00 | 154-00 | 107-00 |
| Саломы . . . . . . . . | 197-00 | 250-00 | 248-20 | 139-00 |
| Усяго . . . | 326-00 | 393-00 | 402-20 | 246-00 |

Лічбы гэтыя сьведчаць аб тым, што вапна, якая была ўнесена ў глебу, значна павялічыла ўраджай. Павялічэньне дасягнула 54 проц. пры 480 пуд. вапны на дзесяціну ў параўнаньні з няўгноенаю дзесяцінай.

Лепш ужываць неадгашаную вапну, але можна ўжываць і пагашаную, размолаты вапняк, даламіт і мэргель (вапна перамешаная з глінай). Рацэпту нельга даць колькі класьці на дзесяціну вапны. На цяжкіх глеявых глебах трэба ўжываць больш, а на пяскавых менш. На тарфяных і кіслых сенажацях кладуць да 1000 пуд. вапны на дзес. Для пахаці раіцца класьці ад 60 да 300 пуд. на дзес. Але на гэта пытаньне можа лепш адказаць мясцовы досьлед.

Лепш уносіць вапну з восені, але можна і вясной. Робіцца гэта так: насыпаюць на полі вапны ў роўныя кучкі і засыпаюць зямлёю. Тут яна і дагашваецца. Далей яе трэба раскідаць на полі. Раскідваньне робіцца вельмі асьцярожна, каб вапна не папала ў вочы (яна шкодна). Раскіданую вапну заворваюць плугам на 1½-2 вярш. глыбіні, ці забараноўваюць бараною.

Вапна робіць добры ўплыў на матыльковыя расьліны, як канюшына, гарох і інш. Лубін і сэрадэля ня любяць вапны. Уплыў вапны на ўраджай працягваецца 5—7 гадоў.

Пры вапнаваньні трэба клапаціцца аб тым, каб поле ня было бедным другімі ўгнаеньнямі.

Вапна на беларускіх глебах, бязумоўна, можа мець уплыў на павялічэньне ўраджаю.

У першую чаргу маюць магчымасьць правесьці вапнаваньне сваіх палёў тыя гаспадары, якія жывуць блізка ад месца знахаджэньня гэтых карысных выкапняў.

П. Т.

(Навукова-Дасьледчы Інстытут)

# Адзін з 4-х палявых севазваротаў для сялянскай гаспадаркі.

У перабудове сельскай гаспадаркі на новы арганізацыйны лад, галоўнейшую ролю адыгрывае выбар севазвароту, які ўжо ў значнай меры характарызуе прыняты гаспадаркаю напрамак. Але, ня гледзячы на гэткае значэньне севазвароту для гаспадаркі, добрых севазваротаў, прыгодных для розных гаспадарак, як гаспадарча-эканамічных адзінак, у нас ня вельмі багата.

Найлепшым севазваротам для ўмоў Бабруйшчыны лічыцца васьміпалёвы севазварот з наступным чаргаваньнем расьлін: 1—папар., 2—



жыта, 3—бульба, 4—ярына + канюшюна, 5—канюшына 1-га году, 6—канюшына 2-га году, 7—жыта і 8—ярына.

Гэты севазварот, захоўваючы дастатковую плошчу пад жытам і ярыною, з асобным бульбяным полем і двума канюшыннымі, для больш інтэнсыўных, асабліва малазямельных гаспадарак, можа зьмяняцца ў бок пашырэньня бульбянога кліну, за кошт восьмага поля ярыны. Але ня гледзячы на прыгоднасьць гэтага севазвароту для сялянскіх гаспадарак з разнастайнымі ўмовамі і патрэбамі, сялянства ў штодзённай сваёй працы шукае новых арганізацыйных форм і шляхоў да паляпшэньня сваёй гаспадаркі. Часам гэтыя шуканьні сваім вынікам маюць вялікія гаспадарчыя дасягненьні, але застаўшыся ў самой гаспадарцы, ня будучы папулярызаванымі, яны паміраюць разам з сьмерцю гаспадара.

Для гаспадарак, якія могуць увесьці новы севазварот, у некаторых выпадках можна ўжываць чатырохпалёвы севазварот, які агранамія лічыць прыемным для ўмоў Бабруйшчыны. Прыклады ўжываньня гэтага севазвароту маюцца ў Асіпавіцкім раёне з добрымі вынікамі. У сваіх шуканьнях некаторыя гаспадары Асіпавіцкага раёну, паміж іншымі, застанавіліся і на гэтым севазвароце.

Па проценту культур гэты севазварот нічым не адрозьніваецца ад вышэй-памянёнага васьміпалёвага севазвароту. Пры гэтым севазвароце пахаць падзяляецца на чатыры полі, прычым кожнае поле ў сваю чаргу дзеліцца папалам. Па ліку палёў гэта, як быццам, той-жа самы васьміпалёвы севазварот, але чаргаваньне расьлін у ім іншае. Па сваёй пабудове ён некалькі напамінае пяціпалёвы севазварот праф., Дзярэнкі. У гэтым севазвароце, як і ў васьміпалёвым, пад жыта адводзіцца 25 проц. плошчы, з той толькі розьніцай, што ўсё жыта заўсёды бывае ў адным кавалку. Другое поле, падзеленае папалам, займаецца бульбаю і аўсом з канюшынаю. На трэйцім полі, таксама падзеленым папалам ідуць ярына і канюшына 1-га году, а на астатнім, чацьвертым полі, папар чысты, альбо заняты і канюшына 2-га году.

Чаргаваньне расьлін у гэтым севазвароце наступнае:

1. Папар / Канюшына 2 году. 2. Жыта 3. Ярына + канюшына / Бульба

4. Канюшына 1 году. / Ярына.

Пры паўтарэньні севазвароту бульба і ярына з пасевам канюшыны мяняецца месцамі, дзеля таго, каб ня было канюшынаўтамленьня. Такім чынам канышюна прыходзіць на старое месца праз сем на восьмы год. Угнойваць у гэтым севазвароце штогодна трэба два полі— папар і палову жытнішча пад бульбу.

Калі гэты севазварот стане вядомы шырокім сялянскім масам, дык можна мець надзею на значнае яго распаўсюджваньне, асабліва ва ўноў створаных пасёлках.

(Асіпавіцкі агравучастак). **П. Грабузаў.**

# Азімы чарвяк і меры барацьбы з ім.

За апошні час у шэрагу акруг Беларусі зьявіўся на азімых палетках шкоднік, вядомы пад назвай **„азімага, ці жытнага чарвяка“**. Шкоды, якія прыносіць гэты чарвяк, бываюць так вялізарны, што часам у некаторых месцах прыходзіцца ўвесну перасяваць азімыя пасевы.

Тое самае мы назіраем і цяпер, як напрыклад, у саўгасе імя Сьвярдлова і іншых вёсках, дзе ў сучасны момант зьездзены дашчэнту ўсе пасевы, так, што замест зялёнай руні засталося чорнае, голае поле.

Аднэю з галоўных прычын такіх вялізарных спусташэньняў ад азімага чарвяка зьяўляецца, з аднаго боку, адсталасьць гаспадарак—няўжываньне новых, палепшаных спосабаў вядзеньня іх, а з другога боку, незнаёмства з жыцьцём азімага чарвяка, незнаёмства з умовамі яго жыцьця і спосабамі змаганьня з ім.



Матыль, вусень і куконччык (лялечка) зімовай соўкі.

Гэтага шкодніка ўвесь час магчыма спаткаць на нашых палетках. Так, у чэрвені месяцы, па вечарох на папары лятаюць цёмнага колеру матылі. Пярэднія крыльлі матыля сераватабурыя, ці чарнаватыя, з трыма плямамі такога-ж колеру. Заднія (ніжнія) крыльлі з цёмнай крайкай і цёмнымі жылкамі. Гэты матыль завецца азімай соўкай ці начніцай. Самкі гэтага матыля адкладаюць белыя яечкі на сьмецьцявых расьлінах, якія растуць на папарах, межах, канавах, абочынах. Праз некаторы час з яечак выходзяць маленькія вусені, якія спачатку жывуць на дзікіх расьлінах, асабліва на бярозцы. Калі крыху вусень падрасьце і аб'есць усе дзікія расьліны, дык яна, за адсутнасьцю спажывы, пераходзіць на культурныя расьліны, якімі будуць у гэты час пасевы жыта. З часу пасеву жыта яны пачынаюць карміцца зярнятамі, расткамі, нарэшце руньню, і такім чынам, вытвараюць плешыны, а часам і зусім робяць поле голым. *Вусень у гэты час мае зямліста-шэры, часам зялёнаваты колер, з трыма цёмнымі палосамі, якія цягнуцца ўдоўж на працягу ўсяго цела. Таўшчынёю яна дасягае алоўка, а даўжынёю да 5 сант.* (*1 вяршок*). У дзень вусень знаходзіцца ў зямлі, а па начох выходзіць на спажыву. З часу зьяўленьня халадоў, яны зарываюцца крыху глыбей у зямлю, дзе і зімуюць. Увесну зноў пачынаюць прыносіць шкоду, але не на доўгі час, потым зарываюцца ў зямлю, пераходзяць у чырвона-бурую лялячку, з якой летам вылятае матыль і які дае жыцьцё новаму пакаленьню шкодніка.

Каротка азнаёміўшыся з жыцьцём шкодніка, робіцца відавочным, што аднэй з умоў змаганьня з ім, ёсьць змаганьне з засьмечаньнем папараў, г. зн. *барацьба са сьмяцьцёвымі расьлінамі, якія растуць на папарах, межах, канавах, абочынах. Для зьнішчэньня гэтых шкодных*

*расьлін неабходна ўжываць раньнія, ці занятыя папары.* Раньнія папары, пасьля вясеньняй воркі, у летні час скародзяцца як толькі яны пачынаюць зелянець. *Сьмецьцевыя расьліны па межах, канавах, абкашваюцца ў час з 15-га чэрвеня па 15-е ліпеня.*

У выпадку масавага зьяўленьня чарвяка, вытвараюць іх зьнішчэньне. Але трэба адзначыць, што посьпех у барацьбе будзе толькі тады, калі ўсе гаспадары вёскі будуць прымаць удзел у гэтай справе, бо чэрві не разьбіраюць каму належыць гэты палётак; зьеўшы адзін вучастак, яны перапаўзуць на другі.

Найбольш простым спосабам абароны пасеваў *зьяўляецца правядзеньне заградж̌альных канаў на межах палеткаў, якія яшчэ ня зачэплены ткоднікамі.* Канавы робяцца плугам, потым сьценкі папраўляюцца рыдлеўкамі так, каб сьценкі, бакі канаўкі, былі гладкімі і стромкімі. Зямлю выкідаюць у бок паражонага палетка. *Канава павінна быць глыбінёю 27 сант. (6 вяршкоў), шырынёю 22 сант. (5 вяршкоў),* а па дну канавы, на працягу 4 мэтраў (2 сант.) адзін ад другога выкапваюцца калодзезі ў 18 сант. (4 вяршка) глібынёю. За канавамі вытвараюцца штодзеньназіраньні для папраўкі сьценак і раздаўліваньня вусеняў, якія напаўзаюць на дно і ў калодзезі.

*Другім добрым і хуткім спосабам барацьбы зьяўляецца пасыпка руні азімых атрутнымі парашкамі* — белым мыш'яком, мыш'яковаквасным натрам, мыш'якова-квасным кальцыям і парыскай зеляньню. *На гэктар (0,94 дзес.) трэба браць 3—4 кілёграм. (7½—10 фунт).* атруты, *якую* для добрага распылу *зьмешваюць з 12—16 кілёграм. (30—40 фунт.) прасеянай, свежа-гашанай вапны, ці з попелам; зьмешваць неабходна як мага лепш.* Пасыпку, ці апылкаваньне магчыма вытвараць пры дапамозе прылады, распылкаваселя, у які насыпаюць парашок, ці рукамі.

Некаторыя гаспадары ўжываюць перасевы ці дасевы азімых, калі толькі ўбачаць шкоду. Гэтая праца не дасягае мэты, а толькі дарэмна траціцца насеньне і праца. Ляпей, калі чарвяк пайшоў на зімоўку ў зямлю, зрабіць перапашку голых вучасткаў, каб вывярнуць на паверхню зямлі чарвей, якія загінуць ад неспрыяючага васеньняга і азімовага надвор'я.

Некаторыя дасьледчыя станцыі на голых вучастках *праводзяць барацьбу пры дапамозе атручаных прыманак. Атручаныя прыманкі робяцца з кармовых буракоў, якія рэжуцца на кавалкі, абліваюцца мешанкаю з вады і патакі ў роўных частках; потым аблітыя буракі пасыпаюцца парыскай зеленьню, усё добра перамешваецца і раськідваецца па полю. Атруты пры гэтым спосабу ўжываньня ідзе каля 2-х фунт., а буракоў 15—20 пуд. на дзесяціну.* Аб арганізацыі барацьбы зьвяртайцеся да райаграномаў ці ў Акрза.

Сяляне, паведамляйце Менскую Станцыю Аховы Расьлін (Менск, Шырокая 28) аб зьяўленьні шкоднікаў, ад яе вы атрымаеце ўсе зьвесткі аб змаганьні са сшкоднікамі, куды і дасылайце прымернікі шкоднікаў і пашкоджаньняў.

**М. Пілько.**

(Навукова-Дасьледчы Інстытут).




# Як я жыву на $1\frac{1}{3}$ дзесяц. пахаці і 1 дзесяц. балотнай сенажаці.

(*На конкурс „за лепшы ўраджай“* *).

Калі я прачытаў у „Крестьянской газете“ (ад 21 жніўня г. г. № 34) такія словы: „вынудили нас ввести до 15 пуд. пшеницы из-за границы“, дык для мяне гэта было нова і незразумела, я заўсёды думаў, што збожжа мы толькі вывозім, а ня ўвозім. Наша краіна земляробская, сялянская краіна, мы займаем 1/6 частку зямное кулі, у нас так многа зямлі, што думаў я сабе, каб яна была ў немцаў ці бельгійцаў, дык яны ня ўвозілі-б, а ўвесь сьвет засыпалі-б хлебам. А ў нас некаторыя сяляне, маючы 4—5 дзес. зямлі, стаяць у чарзе за хлебам каля патрабілаўкі, стаяць паўдня, каб купіць $1\frac{1}{2}$-2 кілё хлеба. Пасьля гэткай думкі, мне аж сумна стала. Паляцелі гурбой думкі ў маёй галаве: зямлі ў нас многа, нават надта многа ў параўнаньні з гушчынёй насельніцтва ў іншых замежных краінах, а мы ўсё крычым што мала, самі-ж і тую не апрацоўваем, ня ўгнойваем так, каб расьліна магла ў ёй добра разьвівацца і даваць вялікі ўраджай. Мне да гэтай пары не зразумелы быў „конкурс на лепшы ўраджай“; думалася: нашто гэта дзяржава так многа хоча аддаць грошай на прэмію тым сялянам, якія і бяз гэтага штогод атрымліваюць добрую прэмію ад сваёй гаспадаркі добрым ураджаем, за тое што разумна і старанна яе апрацоўваюць, угнойваюць і засяюць.

Некалькі разоў мне марылася апісаць сваю гаспадарку для конкурсу, але кожны раз зьяўлялася і такая думка: сорамна праяўляць жаданьне на гасьцінец ад дзяржавы за тое, што я атрымліваю лепшы ўраджай. Але пасьля вышэй адзначанага разважаньня для мяне пытаньне конкурсу стала зразумелым і я прапаную ўсім тым сялянам, якія ўдвоілі, утроілі свае ўраджаі, пісаць, паведамляць другіх, што можна ў некалькі раз павялічыць ураджай, калі гэтага дабівацца, калі гэтага захацець, калі прыслухоўвацца да агранамічнай навукі, вывучаць і сачыць за жыцьцём і разьвіцьцём расьлін. Навука дапаможа ў тым, што, гледзячы на глебу, убачыш як у ёй разьвіваюцца корані расьлін, ці хапае спажыўных сокаў, ці ня цесна ім варушыцца ў глебе, што трэба рабіць, каб дабіцца палепшаньня ўраджаю, а разам з гэтым і свайго жыцьця. Навука пакажа шляхі, якімі большую колькасьць хлеба можна атрымаць ня толькі пры павялічэньні зямлі, але і пры лепшым доглядзе за ёй.

*) Хаця апісаньне гаспадарак на конкурс „за лепшы ўраджай“ ужо скончана газэтай „Беларуская Вёска“, але рэдакцыя часопісі лічыць, што апісаньне т. Мяхедка будзе карысным для чытачоў „Плуга“.

А цяпер апішу сваю гаспадарку. Знаходзіцца мая гаспадарка ў м. Заслаўі, Менскай акругі, у поўвярсьце ад станцыі „Беларусь“ Зах. чыгункі, у 25 вярстах ад г. Менску. Мне 55 год, а жонцы 38, дзяцей няма. Я калека, больш 30 год як страціў кісьць левай рукі, але раблю сам усё што трэба ў гаспадарцы. Наймаю падзённых толькі пры пасадцы і выбіраньні бульбы, ды як звожу сена, наймаю каня, але раблю і сам. У гаспадарцы маецца: 1¹/₃ дзес. пахаці і 1 дзес. балотнай сенажаці, 1 хата, 1 хлеў і гумно пад аднэй страхой, 1 каменны склеп. З жывёлы маю 2 каровы, 2 сьвіньні, 2 парасят. Няжывога інвэнтару: 1 драбіны, 1 сані, 3 плугі, 1 акучнік, 1 лапчатая барана, 1 простая барана з жалезнымі зубамі, 1 дрыўляны каток, 1 арфа, 1 сячкарня, 1 сепаратар, 1 дзесяцічная вага, 1 бязьмен.

Зямля—мелкі суглінак. Сенажаць у сучасны момант мэліяравана. Сядзібная зямля—пясок.

Прызнаюся, што калісь-та і ў мяне былі думкі, што селянін можа добра жыць толькі на плошчы зямлі дзесяцін у 15, а на дзесяцінах 5—8 будзе толькі нэндзіць. Я думаў, што пасьля таго, як мы прагналі паноў, на маю долю выпадзе вялікаватая плошча зямлі. Пасьля-ж падліку, у нашай мясцовасьці выпала зямлі на адну душу адна дзесяціна. У мяне сям'і 2 душы, дык мне і прышлося 1¹/₂ дзес. пахаці і адна дзесяціна сенажаці. Гэтую норму я атрымаў у 1923 г., а быўшыя ў мяне перш 2 дзес. адышлі пад уноў арганізаваны пасёлак. Пры атрыманьні ³/₄ пахаці было засеяна папярэднімі гаспадарамі. Ураджай гэтага жыта быў ня больш як 25 пуд. зярна з дзесяціны.

Убачыўшы, што зямлі мне атрымаць больш нельга, а расцягнуць яе як гуму не мажліва, я памеркаваў дабіцца ад свайго кавалка зямлі як мага большага ўраджаю. Дзеля гэтага стаў вяртацца з рознымі пытаньнямі і за markднымі парадамі да аграномаў. Яны мне растлумачылі, што ў нашай мясцовасьці зямля патрабуе добрага ўгнаеньня, а ў такім разе патрэбна весьці гаспадарку з жывёлаводным ухілам. Пры чым кароў трэба даглядаць добра, а для гэтага неабходна мажліва больш зьвяртаць увагі на пасеў траў і клубне-карэньплодаў. Растлумачылі мне, што канюшына ня пустошыць глебы, а, наадварот, робіць запас у глебе азоту; акрамя таго, неабходна сваячасовая і належная апрацоўка глебы. Пасьля розных гутарак і парад аграномаў, я разьбіў сваю зямлю на 6 палеткаў па 540 кв. саж. у кожным, і стаў весьці такі пладазьмен: 1-е поле—жыта, 2-е—бульба, 3-е—бульба, 4-е ярына з падсевам канюшыны, 5-е канюшыня, 6-е канюшына. Такім чынам ¹/₆ частка зямлі займаецца пад жыта, ¹/₆ пад ярыну, ¹/₃ пад канюшыну і ¹/₃ пад бульбу. Ня кідаючы сувязі з аграномамі, я пачаў выпісваць сялянскі друк. У сучасны момант я атрымліваю газэты: „Беларуская Вёска“, „Крестьянская газета“, журналы: „Плуг“, „Сам сабе аграном“ і „Крестьянский журнал“. Гэты друк дае для мяне надта многа карысьці. Праз друк навучыўся я лепш апрацоўваць глебу, з найменшай тратай сілы і часу, чаргаваць пасеў расьлін так, каб атрымліваць найбольшы ўраджай, ня спустошваючы глебы.

Калі я атрымаў сучасную сваю зямлю, дык яна была спустошана чатырох-гадовым пасевам жыта па жыце без перапынку і была вельмі засьмечана сьмяцьцёвымі травамі. У 1923 г. пасьля таго, як зжалі жыта, а было яно надта няўдалае (з маленькімі каласкамі), я ўсю зямлю зараз-жа ўзараў. Для лепшай апрацоўкі і каб як магла менш распыляць глебу, я зрабіў лапчатую барану з пяцьцю зубамі, для аднаго каня. Пасьля апрацоўкі гэтай, а потым звычайнай бараной, на-

вазіў гною і ў сьлед заараў. Свайго гною для ўсяго вучастку ў мяне не хапіла, і я купляў гной дзе мог. Ня гледзячы на гэта ўсю зямлю ўгнаіць я змог ня надта добра, прышлося ўсяго па 1200 пуд. на дзес. У 1924 г. вучастак, вызначаны пад жыта, я засеяў вясной віка-аўсянай мешанінай, якую скасіў на зялёны корм. Поле пасьля касьбы вікі зараз-жа заараў, зьвёзшы сырую віку для прасушкі ў іншае месца. Вікі атрымаў 4 вазы. Да другога ворыва пускаў па два разы лапчатую і прастую барану. За тыдзень да сяўбы ўзараў, за дзень перад сяўбой жыта ўнёс 4 пуд. супэрфасфату (вучастак 540 кв. саж.). Ураджай гэтага жыта ў 1925 г. я пераважыў, пры чым аказалася: жыта 34 пуд. 17 фун., саломы 81 пуд. Па разьліку на дзесяціну гэта выходзіць 152 пуд. жыта і 358 пуд. саломы.




Селянін К. Мяхедка з жонкай.

Пры такім пладазьмене я меркаваў вывозіць гной пад бульбу. Але наш раённы аграном на кожным сходзе раіў сялянам перайсьці на шматпольле. На разважаньне сяляне гаварылі, што для гэтага ў іх мала зямлі, дык ён ставіў у прыклад маю гаспадарку, кажучы што я вяду шасьціпольле на $1^1/_3$ дзес. і атрымліваю добры ўраджай. Тады некаторыя сталі гаварыць: „ня дзіва яму мець добры ўраджай, калі ён усю зямлю ўгнаіў“. Гэта мяне надта абразіла, я ведаў што ўгнаіў зямлю слаба, што добрыя вынікі атрымаліся акрамя гною, і ад парашковага ўгнаеньня, і ад пільнай апрацоўкі. Вось я і парашыў даказаць, што і бяз гною можна атрымаць большыя вынікі, калі ўжываць

парашковыя ўгнаеньні, хоць-бы толькі фосфаравыя. Пры ўмовах, што ў мяне 1/3 частка зямлі заўсёды занята азота-зьбіранымі расьлінамі, як канюшына, таму зможа поля даваць ураджай і з меншай колькасьцю гною, я надумаў сядзібны вучастак (400 кв. саж. з досыць значным ухілам, узгорак і пескавы) перапрацаваць пад гарод. Для гэтага, як вядома, пясок неабходна многа ўгнаіць да зьмены яго структуры. Вызначанае мэты я дасягнуў, гарод мой лепшы ў раёне.

Пад усе пасевы, а таксама і пад абодвы кавалкі канюшыны, што-годна ўносіў супэрфасфат ад 12 да 18 пуд на дзес. Цяпер у мяне апрацоўка надта мяккая. Жыта сею пасьля канюшыны ў адну ральлю, але заворваю добра і зараз-жа ўціскаю катком з прыбаўкаю на каток ценжару. Пасеўшы жыта пускаю толькі простую барану, каб не адварачваць часам неперапрэўшых скібаў глебы. Як сажну жыта, стаўляю яго на мяжы, а глебу на другі дзень мелка заворваю, пры чым глеба пад жыта, пасеянага па канюшынішчы, пульхная, дробна-глыбкаватай пабудовы, баранаваць яе лёгка і многа ня трэба. Другі раз на зіму ўзорваю глыбока. Вясной уношу супэрфасфату 18 пуд. на дзес. і 12 пуд. калійнай солі. Калійную соль уношу толькі пад бульбу, на другіх расьлінах нашай зямлі яна ўплыву робіць мала, пасьля чаго бараную і мелка заворваю, пасьля чаго ізноў бараную і кідаю да сяўбы бульбы. Пры сажаньні бульбы ару глыбока, а бульбу саджу не на дно баразны, а з боку, у пульхную скібу— вяршкі на 2 глыбінёй ад паверхні. У радкох саджу па 12 вярш. адна ад аднэй, а радок ад рада на 14 вярш. Бульбу саджу велічынёю ня меншаю курынага яйца, бараную бульбу адзін-два разы. Унікаю вялікага баранаваньня, шкадую што конь утоптвае глебу і ўсходы разрывае і змінае як наступіць. Але за гэта акучваю да 5 раз. Пасеў ярыны раблю па бульбянішчы, але вясной два разы ару і ўношу супэрфасфату 12 пуд. на дзес. Як баранаваньне, так і ворыва гэткім чынам лёгкія, за выключнасьцю канюшынішча.

Сярэдні ўраджай з аднэй дзесяціны за астатнія тры гады такі: жыта 120 пуд., пшаніцы—90 п., бульбы—1500 п., канюшыны—500 п., у 1926 г. бульбы выбраў з сваіх вучасткаў 100 пуд. У 1927 г. меў яшчэ вясною 400 пуд. бульбы (бульба сорта вольтман) і даваў суседзям, у якіх не хапала свайго насеньня, на такіх умовах: цана аднаго пуда 30 кап., а тэрміноўка платы да восені, пакуль ня выбярэ сваёй бульбы. Тады ці заплаціць, ці аддасьць бульбы столькі, сколькі ўзяў вясной, бяз ніякай надбаўкі. Восеньню некаторыя плацілі, а некаторыя аддалі бульбай.

Канюшына ў 1927 г. дала ўраджай да 700 пуд. з дзес., а ў гэтым 1928 г., першагодняе касьбы сабраў 500 пуд., канюшыны-ж другога году падбала зімы, але разраслася цімафееўка, праз гэта ўсё-ж атрымаў ураджай 300 пуд. з дзес.

Да гэтага часу я свой пясчаны сядзібны вучастак управіўся так угнаіць, што на ім усё добра родзіць: капуста, памідоры, гародная суніца і інш. Кармовыя буракі даюць ураджай ад 6 да 8 тыс. пуд. на дзес., кармовая морква ад 4 да 6 тысяч. У сучасны момант суседзі, паглядзеўшы на мяне, сеюць канюшыну і прымяняюць парашковыя ўгнаеньні.

У гэтым годзе я зьмяніў пладазьмен на гэтакі: 1-е поле жыта, 2-е—касматая (зімовая) віка, пад якую буду вазіць гною да 2400 пуд. на дзес., 3-е—бульба, 4-е—ярына, 5-е—канюшына, 6-е—канюшына. Такім

чынам у мяне цяпер будзе адно поле бульбы, але за тое $^{1}/_{2}$ усёй плошчы маёй зямлі будзе занята пад азотзьбiранымi расьлiнамi.

Цяпер аб сенажацi. На маёй дзесяцiне балота рос балотны бабок, ды рэдкая асака, якой я накошваў 30 пуд. У 1925 г. было арганiзавана мэлiарацыйнае таварыства, якое пачало асушваць балота, а ў 1927 г. ужо мая дзесяцiна балота дала 400 пуд. добрага сена.

Цяпер скажу некалькi слоў аб прыбытку. Галоўны мой прыбытак— малако. Я маю дзьве каровы: адна простая, а другая чыстай пароды швiц; я калю для сябе двух парасят у год. Апрача гэтага, у 1926 г. прадаў парсюка, за якога ўзяў 162 р. У 1927 г. прадаў парсюка за 90 руб. i 230 пуд. сена. Мiж тым мае каровы ня ядуць саломы, бо iм хапае лепшых кормаў.

Вось што даюць мне $1^{1}/_{3}$ дзес. пахацi i адна дзесяцiна сенажацi.

За гэтыя астатнiя 5 год ад аграномаў i праз сялянскi друк я навучыўся гаспадарыць больш чымся за ўсё сваё папярэдняе жыцьцё. У мяне i хлеў уцеплены i з добрым выглядам, i каровы кормяцца па нормах з дацкiх кармушак. Увечары я слухаю радыё на лямпавым прыёмнiку. Але неўзабаве прыдзецца гэты лямпавы прыёмнiк замянiць на дэтэктарны, а пасьля i яго прадаць на хлеб, таму што ўся мая наладжаная гаспадарка стане гiнуць так-жа як i пачынае гiбець мая сiла i здароўе. Цяпер я часта задумваюся, што не пашоў у камуну, калi было больш сiлы, а цяпер хто мяне пpыме старога калеку, ужо нядужага.

Сел. **К. Я. Мяхедка.**

(м. Заслаўе, Менскай акр.).

---

# Некалькi слоў аб гаспадарцы К. Мяхедкi.

Гаспадарка селянiна Мяхедкi адпавядае рачавiстасьцi апiсанага як у лiчбах, так i ў культурных спосабах вядзеньня асобных галiн. Бязумоўна, кароткае апiсаньне не дазваляе сказаць аб многiм, што таксама патрэбна было-б ведаць сялянам, як весьцi маленькую гаспадарку, каб яна была больш прыбытковай i сам гаспадар быў карысным грамадзтву.

Таварыш Мяхедка зьяўляецца частым наведнiкам Заслаўскага аграпункту i параднiк аграномаў ня толькi ў пытаньнях сваёй гаспадаркi, але i наогул па агрпрацы ў раёне. Свае посьпехi i дасягненьнi выкарыстоўвае ня толькi для сябе, але i распаўсюджвае ў грамадзе. Так, напрыклад, аграному патрэбна было ў раёне распаўсюдзiць разьвядзеньне кур культурнай пароды i ў асобе старыкоў Мяхедка ён знайшоў першых памоцнiкаў, якiя за свой кошт набылi досыць дарагое для селянiна гняздо (3 шт.—25 руб.) кур пароды „Плiмут-Рок“, а зараз праз 8 месяцаў ня толькi самi маюць 11 штук гэтай пароды, але i вакольнае сялянства хвалiцца перад райаграномам сваiмi курамi, якiх завялi ад Мяхедкi. Лепшыя сарты сельска-гаспадарчых расьлiн распаўсюджвалiся iм сярод суседзяй у абмен на простыя (пуд на пуд). Нельга не закрануць i таго пытаньня, наколькi правiльна вядзецца ўтрыманьне быдла, якое знаходзiцца ў паказальна-збудаваным хляве.

---

*) Для пацьвярджэньня прыкладваю пры гэтым копiю акту абсьледваньня ўраджаю маёй кармовай морквы, з якога вiдаць ураджай у 6810 пуд. з дзесяцiны.

Пры нязначнай плошчы зямлі, жывёла пераведзена на стойлавае ўтрыманьне, корміцца па нормах. Адсюль і ўдой маладых кароў першага ацёлу атрымліваецца больш за 150 вядзёр у год. У падрыхтоўцы кармоў т. Мяхедка, зьяўляючыся інвалідам, палягчыў сваю працу тым, што зрабіў калаваротак, якім на драцяным кошыку бульба з пограба, які знаходзіцца пад падлогай у сенцах, падымаецца на паверхню, тут паварачваецца да цэбра з вадой і пасьля прамыткі бульбы апускаецца ў кацёл. Пасьля таго, як бульба зварыцца, пры дапамозе ўсё таго-ж калаўротка, яе выцягваюць у карыце і там сякуць. Не прыходзіцца ўжо шмат гаварыць аб такіх палепшаньнях у гаспадарцы, як пабудова паветранага расадніку, кампоснай кучы, ужываньне торфу на падсьціл і інш. На кожным кроку ў гаспадарцы Мяхедка бачыш зьмяншэньне і прадукцыйнасьць працы, абгрунтаваныя на навуковых ведах, якія ён чэрпае з выпісываемай літаратуры і ад аграномаў. Нязначная па плошчы гаспадарка пры рацыянальнай апрацоўцы нават такой малой сям'і (2 душы) дае магчымасьць мець шмат вольнага часу, які не раскідваецца дарэмна гаспадаром, а выкарыстоўваецца на грамадзка-карысную працу. Тав. Мяхедка выбраны і актыўна працуе ў наступных арганізацыях: 1) сябра савета с.-г. крэдытнага т-ва, 2) сябра раённага с.-г. савета, 3) сябра камісіі крамы спажывецкага т-ва, 4) старшыня праўленьня Заслаўскага мэліярацыйнага т-ва і 5) старшыня Заслаўскага мэліярацыйнага саюзу (8 т-в). Вялікае дасягненьне ў мэліярацыі лугоў па Заслаўскаму р-ну, аб якім ведае ўся Менская акруга, зроблена пры дапамозе Капітона Ясонавіча Мяхедка. Характэрна адзначыць, што ні адна з вышэй пералічаных пасад не зьяўляецца платнай.

Не замыкаючыся ў сябе, т. Мяхедка зьяўляецца селянінам-дасьледчыкам, мае сувязь з Менскай Дасьледчай Станцыяй, усялякія свае дасягненьні дэманструе на выстаўках, за што за цэлы шэраг гадоў атрымаў наступныя прэміі:

1) 1925 г.—ганаровы дыплём.
2) 1926 „ —ганаровы дыплём 1-й ступені.
3) 1927 „ —Ручны палольнік „Планет".

У выніку ўсяго, Мяхедка карыстаецца вялікай пашанай і аўтарытэтам сярод сялян раёну, якія раней, бачучы яго беднае жыцьцё, пакінулі думку, што ён нібы-та адкуль мае дадатковыя сродкі. Адны думалі і супярэчылі аграномам на сходах, якія прыводзілі ў прыклад гаспадарку Мяхедкі, што „добра яму, калі ён рублёў 75-100 пэнсыі атрымлівае"..., іншыя сказаныя ім словы аб балоце ў пэрыяд мэліярацыі, што „...у балоце закапана золата" (багацьце), якое мы павінны дастаць, тлумачылі, як сапраўднасьць, што „ў Мяхедкі дзесь-та на балоце закопана золата „(мэталёвыя грошы), якія ён дастае і за іх добра наладжвае сваё жыцьцё. К сёнешняму дню ўсе гэтыя байкі разьвеяліся і ён фігуруе як прыкладны гаспадар ня толькі на сходах, але і ў прыватных гутарках сялян. Вось што дала агранавука праз кнігі і гутаркі з аграномамі тав. Мяхедку. Знаёмячыся з яго гаспадаркай чытачы-сяляне павінны добра ўдумацца і зразумець грунтоўную думку вышэй апісанай гаспадаркі, што „ня трэба гнацца за вялікай плошчай гаспадаркі" і „мучыць" зямлю, а трэба культурна яе даглядзець.

Агроном Заслаўскага раёну **М. Савіч**.

# Як павялічыць ураджай аўса.

*(Вопыт 1928 г.).*

Я павялічыў ураджай аўса пажніўным лубінам. Досьледам я ўпэўніўся, што лубін можна сеяць ня толькі пад азімыя, але і пад ярыну. Апішу свой досьлед.

У мінулым 1927 годзе, пасьля таго, як было прыбрана $^1/_2$ дзес. жыта, жыта было дрэннае, $^1/_2$ дзесяціны дала толькі 18 пудоў. Я заразжа заараў поле і пасеяў лубін (23 ліпеня). Поле рыхтавалася пад авёс будучага году.

Лубін парос даволі добры. Увосень ён пачаў красаваць. Зялёная маса з 1 кв. саж. важыла 15 фунт, значыць на дзесяціну было 900 пуд. Аднак увосень я лубін не заворваў, бо была мокрая пагода. Заараў гэты лубін вясною і пасеяў 8 пуд. аўса.



Ураджай аўса з плошчы $^1/_4$ квадратовага сажню ў гэты'м 1928 годзе. Справа, па ржоньню—2 фунты. Зьлева па лубну—6 фунтаў.

Парос авёс добры. З $^1/_2$ дзес. я нажаў 8 коп. Пры абмалоце кожная капа дала 8 пуд. Усяго намалаціў 48 пуд., а на дзесяціну гэта было-б 96 пуд.

Побач з гэтым аўсом быў пасеяны авёс на аржоньні без пажніўнага лубіну. Тут ужо на $^1/_2$ дзес. нажалі толькі 5 коп або 30 пуд. (па 6 пуд. капа). Розьніца ва ўраджаі 18 пуд., што пры пераліку на дзес. будзе 36 пуд. Таксама трэба мець на ўвазе і тое, што і саломы на другой паўдзесяціне было ў тры разы менш. На малюнку я паказваю два снапкі аўса з $^1/_4$ кв. саж. кожны. Па лубіну снапок важыў 6 фун., а без лубіну 2 фун.

На паўдзесяціне з лубінам панесены лішнія выдаткі толькі на 6 пуд. насеньня лубіну, што і па дарагой цане 1927 г. складзе толькі 12 руб. Прыбытак-жа атрыман на 18 пуд. аўса больш і саломы вышла ў 3 разы больш.

У гэтым годзе пры позьняй прыборцы жыта пажніўны лубін сеяць не давялося.

Быў і яшчэ адзін выпадак, калі ў мяне па лубіну быў пасеяны ячмень. Гэта было ў 1924 г. У той час я пачынаў толькі заводзіць свой насенны лубін.

У 1923 г. насенны лубін парос такім вялікім, што да позьняй восені ня высьпеў. Прышлося яго заараць. Вясною 1924 г. на тым месцы без пераворваньня пасеяў ячмень. І тут раней поле было дрэнным. Аднак пасьля лубіну ячмень парос добры, нават лепшы, чым у другім месцы на гнаі.

З усяго гэтага бачым, што лубін на ўгнаеньне можна ўжываць пад розныя расьліны, асабліва-ж карысна пад ярыну, бо тут лубін сеецца як пажніўная расьліна.

Адно пакуль што дрэнна, што насеннага лубіну сеюць яшчэ мала, таму і насеньне дорага. Пажадана, каб яго сеялі больш, бо і сам па сабе насенны лубін заўсёды аплачвае працу лепш другіх расьлін. У мяне, напрыклад, ёсьць бугрыстая зямля, дзе я завёў трохпалёвы лубінавы севазварот і спэцыяльна сею там насенны лубін і заўсёды маю добрае насеньне.

**Пётра з пустога поля.**

Байдацкі с/с. Меншчына.

---

# Ня толькі грошы шчот любяць.

У вёсцы Таранкевічы, Лепельскага раёну жыве адна бабуля. Задумала яна да сваіх курэй дастаць яшчэ адну, хоць прастую, але больш нясучую, бо свае куры не здавальнялі яе ў гэтым напрамку. Дастала яна курачку ў суседкі ад нясучых курэй. Бабуля ведае грамату і таму задумала яна вясьці падлік яйкам. Узяла аркуш паперы, зрабіла сшытак і стала кожны дзень запісваць, якая курыца з яйкам. К зіме здабытая ад суседкі курачка, назвалі яе „Дзікарка“, бо была яна вельмі пужлівая, нанесла 125 яек, тады калі другія нанесьлі толькі па 60—70 яек. Убачыла бабка, што яе Дзікарка значна лепшая. На вясну яна адабрала зусім сьвежых (ад 2—3 тыдняў) яек ад Дзікаркі і пасадзіла квочку. Вывяліся курчаты, але к восені па падзелу, (бо квочку прышлося пазычыць), на долю бабкі засталося толькі чатыры маладых курачкі. Скалі з вясны дочкі Дзікаркі нясьціся і толькі дзьве аказаліся добрымі: адна „Касатка“ зьнясла 141 яйка, другая „Сьнягурка“—137, трэцяя—89, а чацьвёртая—68. Сёлета куры трохі захварэлі і ліліся, а таму вынікаў, як няпоўных не падаю. Сёлета бабуля мае ўжо 18 курчат ад добрага пеўня і ад Дзікаркі. Відаць, як карысна ўсё ў гаспадарцы падлічыць. Вядома, што курыца, якая нанесла за лета 60 яек, толькі аплачвае свой харч, а значыць Дзікарка сваімі 125 яйкамі дала прыбытку каля 3 руб., а Касатка каля 4 руб.

Гэтыя вынікі ў вёсцы Таранкевічы атрымаліся за тры гады.

Зьвярнеце ўвагу сялянкі на сваіх курачак і пашукайце сярод іх такіх-жа Дзікарак і Касатак. Пяток такіх курэй дасьць 15—20 руб. прыбытку, а клопату з такімі звычайнымі сялянскімі курамі ня многа, трэба толькі мець цёплы і сьветлы катух, ды даць кожны дзень трохі зярнят, а каб ня ліліся—крэйды, вапны, або тоўчанай шалухі ад яек.

Праўда, гатунковыя куры нясуць па 200 і болей яек і буйнейшых ад нашых, але за тое яны і ўмовы для гадоўлі павінны мець многа лепшыя, чым нашы прастыя куры. З пачатку прапаную пачаць паляпшаць сваіх курэй, а гэта, як відаць з напісанага вышэй, ня цяжка, а пасьля дойдзем і да гатунковых. Бачыце грамадзянкі, што часта золата ў нас тут пад нагамі, але мы ня хочам нахіліцца і яго падняць.

На станцыі Ісакава, Смаленскай губ., вучні школы сталі таксама вясьці вучот кожны сваіх курэй. Маскоўскі Птушкасаюз зацікавіўся іх дасягненьнямі і прыслаў ім інструктара і гнёзды курэй. Пачнецеі вы. Наш с.-г. гурток узяў гэты досьлед пад увагу.

**Сел.-дасьлед. Сьлянскі.**

(х. Тадуліна).

---




# Нашы дасягненьні ў галіне садоўніцтва.

*(Да дню „Сьвята Ўраджаю“).*

Працы па паляпшэньню і пашырэньню садоўніцтва ў Беларусі пачалі разгортвацца толькі з 1924 г.

У спадчыну ад мінулага, Савецкая Беларусь атрымала вельмі запушчаную садовую гаспадарку. Пладовыя выхаваньні, паказальныя пладовыя сады і іншыя садовыя ўстановы спынілі сваю дзейнасьць і ад іх нідзе нічога не засталося. Такое становішча атрыманай садовай гаспадаркі патрабавала ад зямельных органаў неадкладных мер па аднаўленьню запушчаных садоў, узьняцьцю ўраджайнасьці іх і па арганізацыі новых садовых устаноў зьявілася патрэбным хутчэй прыняць меры для забясьпечаньня насельніцтва пасадачным матар'ялам і неабходнымі ведамі па рацыянальнаму вядзеньню садовай гаспадаркі.

Перш за ўсё была зьвернута ўвага на аднаўленьне пладовых садоў як у сялянскіх, так і савецкіх гаспадарках. Былі вызначаны два мерапрыемствы масавага характару: 1) арганізацыя сеткі паказальных пладавых садоў, з мэтай практычнага азнаямленьня насельніцтва з працай па спраўленьню і аднаўленьню запушчаных садоў і 2) правядзеньне гутарак і спэцыяльных курсаў з мэтай падвышэньня ўзроўню тэхнічных ведаў па садоўніцтву ў сялян.

У выніку правядзеньня гэтых мерапрыемстваў і самадзейнасьці самага насельніцтва, садовая плошча ў Беларусі адноўлена і пашырана з 20 тыс. гэкт. да 22 тыс. гэкт.; ураджайнасьць садоў узьнялася з 150 пуд. на адзін гэктар 1923-1924 г. да 350 пуд. у сучасны момант. Асабліва ўзрос за гэты час вываз садавіны за межы Беларусі, што складае зараз каля 2.500 тыс. пуд. у год, тады як у даваенны час ён не перавышаў аднаго мільёну пудоў у год. Таварная частка садоўніцтва складае зараз палову зьбіраемай з садоў прадукцыі.

Найбольшая ўвага як у сёлетнім, так і ў мінулыя гады была зьвернута на арганізацыю пладовых выхавальнікаў для забясьпечаньня насельніцтва шчэпамі.

Заснаваньня выхавальнікаў пачалося вясною 1928 г. У гэтым годзе было заснавана 15 выхавальнікаў на плошчы 103 гэкт., а ў сёлетнім годзе іх налічваецца па ўсёй БССР 50, на плошчы 347 гэкт. з мяркуемым штогоднім водпускам 900 тыс. шт. шчэп. Выхавальнікі, заснаваныя ў 1925 г., сёлета адпусьцілі першую партыю шчэп у колькасьці 250 тыс. шт.

Значны процант выхавальнікаў (50 проц. па ліку і 62 проц. па плошчы) зьяўляецца маёмасьцю мясцовых зямельных органаў і Белсельтрэсту. Большасьць належачых гэтым установам выхавальнікаў

арганізуюцца па тыпу буйных садовых прадпрыемстваў па вырашчваньню шчэп і іншых спэцыяльных культур.

Найбольш буйнымі з іх зараз зьяўляюцца выхавальнік Менскага Акрза ў вёсцы Гліўні, каля Барысава, на плошчы 25 гэкт.; Полацкага Акрза ў г. Полацку на 24 гэкт.; Бабруйскага Акрза, у г. Бабруйску на плошчы 12 гэкт.; Белсельтрэсту, у саўгасе Лютня, каля г. Амсьціслаўля на 15 гэкт. Сёлета заснаваны буйныя выхавальнікі ў Гомельшчыне, у саўгасе Ўваравічы на плошчы 15 гэкт.; у Астраглядах на 15 гэкт.; у Хойніках на 12 гэкт. і ў Тадуліна Суражскага раёну (Віцебшчына) на 15 гэкт.

Кожны з гэтых выхавальнікаў будзе адпускаць штогодна ад 25 да 50 тыс шт. шчэп.

Такім чынам, час ад 1928 г. быў пэрыядам аднаўленьня пладовых садоў і падрыхтоўкі да далейшага пашырэньня садовай плошчы.

Сёлетні год зьяўляецца першым пасьля вайны годам, з якога пачаліся масавыя пасадкі новых садоў. У мінулыя гады засаджвалася штогодна па 300-400 гэкт. новых садоў, у даваенны час—800-1000 гэкт., а ў сёлетнім годзе—2000 гэкт. У далейшым гэтая лічба будзе павялічвацца.

Пасадка пладовых садоў праводзіцца зараз у арганізаваным парадку, галоўным чынам на пасёлках і ў калектыўных гаспадарках. Для пасёлкаў абрана групавая форма садоў, якая ўяўляе сабою злучнасьць паасобных садоў пасёлку ў адным месцы, у выглядзе суцэльнага буйнага саду. Гэта форма вядзе да ўзмацненьня таварнага напрамку дробнага сялянскага садоўніцтва і дае магчымасьць супольнай апрацоўцы і дагляду за садам. Такіх садоў сёлета пасаджана каля 1200 гэкт. Насельніцтву для пасадкі групавых садоў даецца доўгатэрміновая пазыка на пакупку шчэп. На гэтую мэту сёлета адпушчана Белсельбанкам 97 тыс. руб.

Такім чынам сёлетні год, зьяўляецца годам, у якім садоўніцтва выйшла на шлях шырокага разьвіцьця. У гэтым-жа годзе пакладзен пачатак разьвіцьцю тэхнічнай перапрацоўцы садовіны, што, бязумоўна, будзе мець вялізарны ўплыў на далейшае пашырэньне садоўніцтва ў Беларусі. Зараз заканчваецца пабудова магутнага пладова-авашчнога заводу ў саўгасе Забалоцьце, каля ст. Ворша. На заводзе гэтым будзе перапрацоўвацца да 80 тыс. пуд. садавіны і гародзіны ў год. Пабудавана два заводы па вырабу пладова-ягадных він, адзін у саўгасе Жылічы, Бабруйскай акругі, а другі ў саўгасе Грудзінаўка, Магілеўскай акругі. У бліжэйшыя гады вызначана пабудаваць яшчэ 17 сушыльна-варачна-вінаробчых заводаў, на якіх будзе перапрацоўвацца больш мільёну пудоў садавіны.

Узьвязку з разьвіцьцём тэхнічнай перапрацоўкі садавіны і намячаемым вырабам значнай колькасьці пладова-ягадных він, распрацаваны і ў хуткім часе будзе выданы спэцыяльны закон аб пладова-ягадным вінаробстве. Падрыхтаваны праект закону аб нармаваньні і рэглямэнтацыі дзейнасьці пладовых выхавальнікаў БССР, які мае мэтай забясьпечаньне насельніцтва добраякасным пасадачным матар'ялам. У мэтах стварэньня прамысловага садоўніцтва, павышэньня ўраджайнасьці пладовых пасадкаў і інш., выпрацаваны раённыя стандартныя асартымэнты, якія адзначаюцца ў мясцовых умовах добрай трываласьцю і прыбытковасьцю.

Вось галоўнейшыя моманты прац у галіне садоўніцтва і іх вынікі да дню „Сьвята Ўраджаю“ 1928 г., які магчыма назваць і сьвятам „Садоўніцтва Беларусі“, якая з гэтага году выходзіць на шлях шырокага разьвіцьця.

Інспэктар садоўніцтва НКЗ **К. Хабэнка.**

# Пабудова хавальніку для пладоў.

Пры перахоўваньні яблык перавагу трэба аддаць добраму склепу. У склепе плады абаронены ад сьвету, залішняй цяплыні і надворнай вільгаці. Надворная зьмена тэмпэратуры робіць малы ўплыў на тэмпэратуру склепа. Там і зімой можна абыйсьціся без апалу. Паветра склепа трымае вільгаць, у якой плады ня псуюцца.

Падлога склепа не павінна быць ніжэй грунтовай вады. Дзеля гэтага месца, для склепа абіраецца там, дзе глеба не балоцістая, і дзе грунтам зьяўляецца пясок ці гліна. Кепскі грунт, як і глеба, можа псаваць паветра ў склепе. Сьцены ў склепе павінны быць настолькі тоўстымі, каб ня мог праходзіць туды холад. У сьценах трэба зрабіць прадушыны для праветраваньня, якія пачынаюцца на 10-15 см. ад падлогі і заканчваюцца пад стольлю знадворку. Лік іх залежыць ад велічыні склепа.

Дзякуючы многім практычным спробам прыйшлі да перакананьня, што найлепшым матар'ялам дзеля склепа зьяўляецца дрэва. У скляпох з драўлянымі сьценамі перахоўваюцца яблыкі лепш, чым у скляпох з каменнымі сьценамі.

Драўляны склеп, будуецца так:

Выкапваюць яму ў 2 мэтр. 45 см. шырыні, 9 м. 5 см. даўжыні і прыблізна $^1/_2$ мэтра глыбіні. У кожным кутку ямы, а таксама ўдоўж сьцяны ставяць слупы на адлегласьці 2 мэтраў адзін ад другога. Слупы 2,57 мэтр. даўжынёю і 14 см. таўшчыні; верхавіны гэтых слупоў злучаюцца абвязкай з бярвеньняў 15 см. таўшчыні. З надворнага боку да слупоў прыбіваюцца дошкі, каб яны ня так хутка гнілі (пажадана абіць іх толем). Сьцены трэба абсыпаць таўстым слоем зямлі за выключэньнем сенцаў, дзе знаходзяцца дзьверы. Пярэднюю сьцяну, а таксама і сьцяну між сенцамі і склепам, трэба зрабіць падвойную, а прамежак між дошкамі трэба набіць кастрыцай, апілкамі ці сухім торфам. Каб склеп быў даволі сьветлы, у дзьвярах робяць па ваконцу. Столь накрываюць даволі тоўстым слоем кастрыцы ці апілак, перамешаных з вапнай.

Страха насьцілаецца саломай ці чаротам. У страсе трэба зрабіць тры выцяжных трубы, якія можна адчыняць і зачыняць, калі патрэбна.

Удоўж сьцяны склепа кладуць полкі ў 40 см. шырынёю, на якіх кладуцца яблыкі. Пасярэдзіне склепа застаецца праход шырынёй каля 1 мэтра. Калі ў такіх скляпох абшыўка з дошчак згіне, то можна з сярэдзіны слупы абіць зноў і такім чынам аднавіць склеп з малымі стратамі.

Дз. Пракапенко.

---

# Пладова-ягаднае вінаробства пры Праскай с.-г. Акадэміі.

Лябараторыя пачала працу 3/IX-26 г. Працай у першыя гады зьяўлялася: 1) Вывучэньне прыгоднасьці нашых асартымэнтаў яблык, ігруш, вішань, сьліў, парэчак, агрэсту суніць, чарніцы і г. д. для вінаробства і апрацоўка тыпаў пладова-ягадных він і 2) Вывучэньне эканомікі пладова-ягаднага вінаробства побач з адшуканьнем найкаштоў-

нейшых шляхоў да вырабу він з найменшым дабаўленьнем цукру і выключэньнем неабходнасьці разбаўляць сок вадой (шляхам зьмешваньня сокаў розных сартоў.

За кароткі час было апрацована 15 сартоў яблык, з соку якіх зроблены практычныя выпрабаваньні цукру і кісласьці. Вось некаторыя з іх: спынімся толькі на некаторых

| №№ па чарзе | Час аналізу | НАЗВА САРТОЎ | Выхад соку ў процантах | У 100 к. с. соку | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Агульны лік цукру | Кісласьці |
| 1 | 7I/X-26 г. | Зімовае паласатае . . . | 57,0 | 11,4 | 1,178 |
| 2 | „ | Пэпынь ружовы . . . | 65,5 | 11,2 | 0,785 |
| 3 | „ | Пэпынь паласаты . . . | 56,5 | 10,4 | 0,607 |
| 4 | 13/IX | Бараввінка . . . . . | 55,0 | 11.0 | 0.692 |
| 5 | 14/IX | Кітайка гібрыдная. . . | 68.0 | 13,0 | 0,692 |
| 6 | „ | Харламаўка . . . . | 58,0 | 11,0 | 0,892 |
| 7 | 22/IX | Кітайка янтарная . . . | — | 13.3 | 1,496 |
| 8 | „ | Кітайка (P. Prunifoгia) . | — | 15,5 | 2,46 |
| 9 | 23/IX | Антонаўка . . . . . | 55,10 | 9,54 | 0,80 |

Гэтыя лічбы і шэраг нязьмешчаных тут апрабаваньняў сьведчаць аб тым што:

1. Васеньнія сарты (зімовае паласатае, харламаўка, баравінка і іншыя) далі сок добрай якасьці. З васеньніх сартоў, якія цяжка бывае збыць на рынку, трэба падабраць добры асартымэнт для вінародзтва. Пры ўжываньні купажу віно з іх добра афарбоўваецца, і мае прыгожы смак.

2. Кітайка (і нашы дзічкі) з пладамі нізкай якасьці могуць адыграць у вінаробстве выключную ролю: іх высокі процант цукру і колькасьці ў дамешчы да васеньніх сартоў падымае якасьць віна, а дубільныя часткі соку дапамагаюць хуткаму выбражваньню і асьвятленьню.

3. Зімовае паласатае яблыка, якое ня мела ходу на рынку з прычыны кіслотнасьці і гаркаватасьці, даў добрае сусла і віно з паласатай пэпынкай.

Гэта кажа аб тым, што некаторыя сарты, якім мы не надаем увагі і выключаем з гадавальнікаў, вельмі прыгодны для вінаробства. Досьледамі неабходна высьвятліць іх каштоўнасьці належна распаўсюджваць і скарыстаць для мэт вінаробства.

4. Антонаўка дасьледвалася 6 раз. Плады ўзятыя з дрэва далі 62 проц. соку, праляжаўшыя $2^1/_2$ м-цы—41,2 проц.

Тыя яблыкі, што былі ўзяты прама з саду антонаўкі і іншых (васеньніх) сартоў далі пры размалываньні шмат самацёку і лёгка і хутка адпрасоўваліся. У лістападзе, праляжаўшая антонаўка (і інш. зімовыя сарты), ужо не давала самацёку і цяжка адпрасоўвалася.

Зьніжэньне % соку і псаваньне пры ляжаньні разам з тратамі па ўтрыманьню, вымагаюць з пераробкай сьпяшыць у верасьні і кастрычніку, і не затрымліваць яе далей сярэдзіны лістападу.

Выпадкова, а можа так будзе і на далей, сок з дасьпеўшай антонаўкі па якасьці аказаўся на апошнім месцы. Віно з яе адной крыху „пустое“ і не здавальняе ўсіх жаданьняў.

Пры коштоўнасьці яблык 75 к. пуд., выходзе соку ў 60 проц., з дабаўленьнем цукру для большай моцнасьці 5 ф. на вядро, з падлікам рабочай сілы, амортызацыі машын, %% на капітал, адходам пры пераліках, разьліўках і г. д., сабекошт 1 вядра ў сярэдняй прамысловасьці вылічваем у 4 і ня больш 5-ці руб. Прадаць віно 14 градусаў моцнасьці можна з прыбыткамі 5-ці руб. на вядро.



Завод пладова-ягаднага вінаробства.

Моцныя 14—16 градусаў віны трэба лічыць часовым напіткам. У далейшым, з сталай распрацоўкай тэхнікі з навуковага боку, нам прыдзецца імкнуцца да больш лёгкіх, натуральных він у 6—7 градусаў моцнасьці, якія павінны стаць усенародным напіткам.

У Францыі ў 1923 г., побач з 57,164 мільёнаў гэкталітраў вінаграднага віна, выраблена 19 мільёнаў гэкталітраў (155 мільёнаў вёдзер) пладовых він, каля 4 вёдзер на 1 жыхара.

Мы з упэўненасьцю можам будаваць у першыя гады нашу прамысловасьць па выбару пладова-ягадных він з разьлікам 0,1 вядра на 1 жыхара, а гэта дасьць агульную прамысловасьць блізка да 500 тысяч вёдзер з прыбыткамі ў 2,5 міл. руб.

З узмацненьнем экономікі сельскай гаспадаркі, з павышэньнем культурнага ўзроўня насельніцтва трэба будзе ўсё больш і больш ска-

рачаць хлебнае віно ў 40 градусаў і пераходзіць, па прыкладу замежных краін, на лёгкія напіткі, якімі зьяўляецца пладова-ягадныя віны.

Пашырэньне гэтага віду індустрыі ў Рэспубліцы створыць нябывалы грунт гандлёваму садоўніцтву і ў прыватнасьці ягадаводзтву, болепшае віно нам дадуць парэчкі (асабліва белыя). Добрае нават лекавае віно дае чарніца і БССР, з значным лікам яе, можа стаць манапольным пастаўшчыком чарнічнага віна на ўвесь Саюз.

Горы-Горкі
С.-Г. Акадэмія.

**Р. Гуржы.**

# Першыя вынікі арганізацыі групавых садоў.

Фактычна да закладкі групавых садоў у значным маштабе прыступлена ў БССР і ў прыватнасьці па Аршаншчыне з восені 1927 г. Ідэя групавых садоў пачала шырока пашырацца па пасёлках. Зварухнуліся калятывы. Цікава, што і хутаране ўжо прызадумаліся якім-бы спосабам на сумежных хутарскіх землях закласьці агульны масыў саду.

У верасьні г. г. давялося дасьледваць грунтавыя сады па Тужкаўскіх пасёлках (у 5 кілём. ад Горы-Горак).

Заўважым, што ў восені 1927 г. былі высаджаны 2-годкі яблынь без карон. Вясной дрэўцы былі троху падрэзаны, а ўлетку фармаваліся каронкі.

Увосень выявілася, што прыняліся ўсе 100 процантаў прышчэп 2-годак. Падрэзаныя прышчэпы на 80—85 процантаў пабудавалі каронкі. Тамака, дзе з вясны пад прышчэпы ўнасіўся кампост, перапрэўшы гной, і навакол у садзе садзілася бульба, буракі, капуста каронкі ўдаліся, галякі падцягнуліся да 30—35 см. у даўжыню. Прышчэпы, якія апынуліся сярод аўса і жыта, далі вельмі кароткія галіны, альбо зусім заселі, каротка кажучы, ня далі каронак. Прышчэпы сярод аўса затрымаліся ў росьце. Гэта вялікая шкода для гаспадаркі, бо ў 1929 г. з вясны прышчэпы з каронкамі шпарка пойдуць у рост, а дрэўцы, якія сядзелі сярод аўса і жыта, у некаторых выпадках пачнуць цьвісьці і пры недоглядзе на другі год не дадуць каронак. У гэткіх садох, дзе па нядбайнасьці гаспадароў, прышчэпы не далі карон, трэба каб інструктар даваў сваю параду. Мы лічым, што трэба будзе рана вясной даць пад дрэўцы 5—8 лапат кампосту, перакапаць на 9 сантым. (па 2 вяршкі глыбіні) навакол, пасыпаць пад прышчэпу да 5—7 грамаў чілійскай салетры (пад дождж) і нават праз 2—3 тыдні ізноў (каля пачатку чэрвеня) падсыпаць 5—7 грамаў (перакапваць не патрэбна). Магчыма патрэбна будзе падрэзка, але падкрэсьлю, што гэта справа інструктара-садавода, бо бяз „доктара“ тут ужо не абыйсьціся.

У будучыне групавыя сады будуць закладацца і каронístымі прышчэпамі, але трэба ведаць, што і каронistыя яблыні ня пойдуць у рост, калі яны апынуцца сярод аўса, жыта, і калі гаспадар нядбайны... Процант няпрыняўшыхся каронístых яблынь заўсёды будзе больш значным, як ад бескаронístых дрэў.

Наогул, 2-годкі прышчэпы з добрымі карэньнямі ўзросту 1 мэтр. 70 см. (да $2^1/_2$—3 аршын) для нашых умоў мы лічым каштоўным пасадачным матар'ялам пры закладцы групавых, калятыўных садоў.

Заўсёды трэба памятаць, што правільная карона павінна першыя 5 год фармавацца ў садзе.

Гатовая з кронай прышчэпа, высаджаная ў сад, пры нядбайнасьці гаспадара, пры няўменьні выводзіць і фармаваць карону—праз некалькі год (прышчэпа) можа не апраўдаць чаканьня гаспадара.

Пасаджаныя новыя сады з кожным годам патрабуюць усё больш догляду гаспадара і інструктара. Тэхнікаў садаводаў у нас вельмі мала. У Гомельшчыне садовыя пасёлкі і каляктывы яднаюцца і на свой кошт запрашаюць на 4—5 груповых садоў 1 тэхніка-садавода, бяз гэткіх мерапрыемств групавыя сады ня маюць будучыні. Калі арганізуецца вялікая справа, пашырыцца, паглыбіцца справа закладаньня значных садовых масываў, тады павінен павялічыцца тэхнічны пэрсанал, павінна шырыцца ініцыятыва, арганізаванасьць самога аб'ядноўваючагася насельніцтва—па прыкладу Гомельшчыны.

Калі закрануў пытаньне аб новых групавых садох, якія я агледзеў гэтай восеньню, павінен заўважыць аб прамежкавых культурах. *На 1-ы год добра па ўгнаеньню (з восені) удаліся турнэпс, бручка, бульба.* Не ўдаліся буракі, капуста; для гуркоў лета было дрэннае. Глебы па Тушкаўскіх пасёлках—багатыя лёэсы, суглінкі. Зноў заўважу тое, аб чым ня раз я пісаў на старонках „Плуга": культура буракоў складаная, яна патрабуе 4—5 год заправкі і падрыхтоўкі палеткаў (на квасных глебах). Спачатку сяляне павінны навучыцца па новых угноеных (з восені) плошчах садзіць турнэпс, бручку і атрымліваць добрыя ўраджаі.

У масавых сялянскіх гаспадарках не павінна быць рызыкантных досьледаў і для кожнага раёну павінен быць распрацован плян пашырэньня кармавой плошчы бяз усякай рызыкі для сялянства.

Горкі, с.-г. Акадэмія. Проф. **М Бурштэйн.**

---

# Што перашкаджае селяніну гадаваць пчол у рамовых вульлях.

З гутарак па пчалярству, якія праводзяцца ў с.-г. музэю Цэнтральнага дому селяніна (у Менску), заўважана вялікае жаданьне сялян гадаваць пчол у рамовых вульлях, але для ажыцьцяўленьня гэтага, па словам сялян, ёсьць шмат перашкод. На што-ж галоўным чынам скардзяцца сяляне?

Папершае, імі адзначаецца той недахоп у справе пчалярства, што „няма дзе зьняць меркі вульля Дадана-Блята, бо гэтых вульляў няма нават на агранамічных вучастках".

Вядома, гэтая недарэчнасьць павінна быць зьнішчана, рамовыя вульлі для ўзораў павінны быць на кожным агранамічным вучастку. Аднак выхад з гэтага становішча ёсьць, і вось які: вулей Дадана-Блята каштуе 12 руб. 50 кап. Сяляне, якія хочуць займацца пчалярствам, згуртаваўшыся могуць сабраць па колькі там прыдзецца капеек і на сабраныя грошы купіць вулей. Меўшы адзін такі вулей, можна далей будаваць іх колькі запатрабуецца.

Падругое, скардзяцца сяляне на тое, што няма матар'ялу, з якога было-б магчыма будаваць вульлі.

На гэта трэба сказаць, што па справе пчалярства ёсьць пастанова СНК БССР дзе гаворыцца так:

„Лясныя матар'ялы, неабходныя на рамачныя вульлі, адпускаюцца пчаляром, якія маюць працоўную пасеку і якія ўваходзяць у пчалаводнае аб'яднаньне", на ільготных умовах.

Такім чынам мы бачым, што набыць матар'ял для пабудовы вульляў магчыма, трэба толькі быць сябром пчалярнага таварыства. І трэйцяе, на што скардзяцца сяляне гэта на тое, што няма ведаў, якія патрэбны пры гадоўлі пчол у рамовых вульлях.

Але, на гэта вось што трэба сказаць—нідзе і ні ў чым ня бывае так, каб нарадзіўся чалавек і ўсё ведаў і ўмеў. А вось потым, калі чалавек чаго моцна жадае, дык і дасягне. Гэтак і з ведамі па справах пчалярства.

Сельска-гаспадарчыя курсы ў раёнах праводзяцца кожны год. Сюды і трэба імкнуцца папасьці. Праўда, курсы ў раёнах не даюць магчымасьці падрыхтаваць усіх сялян, якія жадаюць атрымаць тыя ці іншыя веды па сельскай гаспадарцы, таму той, хто на іх быў, можа дапарадзіць другім. Набыць веды ня толькі па пчалярству, але і па іншых галінах сельскай гаспадаркі можна, трэба толькі належным чынам скарыстаць той час, які сяляне трацяць дарма. Напрыклад, у зімовую пару, па вечарох, зьбярэцца некалькі сялян да якога-небудзь жыхара вёскі і пачынаюць плесьці розныя байкі, на што ўваходзіць шмат часу, а карысьці ад іх ніякой. А ці ня лепш было-б на такіх сходках пачытаць кніжку па сельскай гаспадарцы, у тым ліку і па пчалярству і такім чынам к вясне досыць добра можна падрыхтавацца да таго, каб было магчыма гадаваць пчол у рамовых вульлях.

А. Суравец.

Цэнтральны Дом Селяніна,
Менск.

---

## С-г. хроніка.

*Кантрактацыя сьвіней на мясны (бэконны) адкорм.* Зараз Наркамгандлем праводзіцца, пры ўдзеле Наркамзему, кантрактацыя сьвіней на мясны (бэконны) адкорм. Кантрактуюцца сьвіньні толькі ангельскія, белыя і мяшаныя ангельскія з простымі. Узрост кантрактуемых сьвіней павінен быць 5—6 месяцаў пры пачатку адкорму. У 9 месячным узросьце (канец адкорму) яны павінны важыць ня менш 5 пуд. і ня больш $6^1/_2$. Пры падпісаньні дагавору, селянін атрымоўвае 20 руб. авансу на кожнага закантрактаванага подсьвінка. Апрача таго, кантрактуючы гаспадар можа атрымоўваць за плату па цэнах Наркамгандлю, у мясцовым с.-г. таварыстве па 2 пуды пшанічных высевак, 3 пуд. ячменю і 2 пуды аўса на кожнага закантрактаванага падсьвінка. Плата за пуд жывое вагі (скідак ніякіх рабіцца ня будзе)—9 руб.

Аб умовах кантрактацыі зьвяртацца да мясцовых аграномаў.

---

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ



## Як страўліваць скацінаю зярняты лубіну.

Усім вядома, што як зярнят лубіну, так і сьцябла праз тое, што яны горкія, скаціна ня есьць. А горкія яны таму, што ў іх знаходзіцца многа так званых алкалёідаў, горачы. Калі толькі якім-небудзь чынам зьнішчыць у лубіне гэту горач, дык тады яго з ахвотай есьць скаціна.

Маладое сьцябло жоўтага лубіну ядуць авечкі і коні, а высушаны і сіні паядаецца авечкамі. Якасьць зярнят лубіну вельмі вялікая. 1 фунт зярнят лубіну па спажыўнасьці прыроўніваецца 1 фун. макухі. Макуха-ж вядома, вельмі добры корм як для кароў, так і для іншай скаціны. Пры правільным навуковым кармленьні ў кармовыя дачы (рацыёны) абавязкова патрэбна дабаўляць спажыўныя кармы (вотруб'е, макуху і іншыя).

З мэтай павялічыць каровам колькасьць спажыўных кармоў, Навазыбкаўская станцыя паставіла досьлед у 1925 г. з кармленьнем кароў лубінам. Вопыт удаўся добра і з гэтага часу станцыя пачала ў штодзённыя дачы дабаўляць лубін.

Абязгорчваецца лубін на станцыі вось як: перш-на-перш зярняты лубіну ачышчаюцца ад шалухі і дробяцца на часьці (сямідолі). Гэта робіцца на звычайных жорнах. Патрэбна гэта рабіць дзеля таго, каб ён размакаў і вываруаўся роўнамерна. Паколаты на часткі лубін насыпаюць у кацёл ці чыгун, наліваюць вадой і вараць (кіпяцяць) 1—$1^1/_2$ часа. Затым яго высыпаюць у пасудзіну (цэбар, дзежку) і наліваюць халоднаю вадою, каб ён мок. Важна і патрэбна яго пры гэтым некалькі разоў памешваць. Вымакае ён лепш і скарэй у цёплую пагоду. Мокнуць ён павінен 2 дні. Два разы ў дзень трэба мяняць ваду, спускаючы старую цераз зробленую ў нізе пасудзіны дзірку. Пасудзіну лёгка самому зрабіць з дошчак.

Правараны і прамочаны такім чынам лубін губляе сваю горач і можа страўлівацца скацінай. У гэтым і ўся тэхніка абязгорчваньня. Добра вымываць лубін там, дзе ёсьць рэчка. Яго тут можна проста насыпаць у кашы ці ў што другое і паставіць у ваду, помятаючы, што і тут ня шкодзіць яго памешваць.

Апрацованы такім спосабам лубін скаціна паядае з вялікаю ахвотай. Станцыя страўлівае яго па 5 фун. у дзень кожнай карове. Гэтакую колькасьць каровы зразу не зьядаюць, да гэтага іх трэба прывучыць паступова.

Авечкам было пастаўлена дзьве пасудзіны: уаднэй авёс, а ў другой лубін. Яны ня елі аўса, а елі лубін. Пры падрыхтоўцы лубіну для корму і пры страўліваньні трэба памятаць, што ён скора, праз 1—2 дні, псуецца—плесьнявее. Калі такім яго страўліваць, дык каровы

хварэюць лупінозам. Значыць яго трэба подрыхтоўваць столькі, каб зразу можна было стравіць.

Звычайна зярняты лубіну скора губляюць сваю ўсхожасьць і ў гэтым выпадку карысьць ад яго можна мець толькі стравіўшы скацінаю. Усе прылады для абязгорчваньня селянін можа знайсьці ў сваёй гаспадарцы.

*Ад страўліваньня лубіну атрымліваецца* вялікі прыбытак на дзесяціну. У нашай мясцовасьці лубін высьпявае, і ўраджай яго бывае ад 60 да 150 пуд. на дзес. Апошнюю лічбу станцыя атрымлівала з сваіх палёў. Вылічым, які даход дасьць селяніну дзес. у 60 пуд. ураджаю. Прымаючы пад увагу, што адзін фунт лубіну прыстасован 1 кармовай адзінцы, будзем мець у 60 пуд.—2400 карм. адзінак. Адна-ж кармовая адзінка, страўленая кароваю пры правільным кармленьні, дае $2^1/_2$ ф. малака. А ўсяго з 2400 карм. адзінак будзем мець ($2^1/_2 \times 2400$)—6000 ф. ці 150 пуд. малака. Лічачы пуд малака па 1 руб. (кварта каля 4-х к.), будзем мець кошт за малако ў 150 руб. Значыць дзесяціна, пры ўраджаі лубіну ў 60 пуд., дае 150 руб. Калі-ж мы будзем мець ураджай 100 пуд., дык агульны прыбытак будзе 250 руб.

Сялянам патрэбна ўсе пустыя кавалкі зямлі засяваць лубінам, ад якога вялікая карысьць. Лубін-жа сам па сабе паляпшае—угнойвае глебу і гэтым робіць яе ўраджайнай.

**К. Хвалей.**

Навазыбкаўская дасьледчая
с.-г. станцыя

---

# Як зьменшыць сабекошт малака.

(*З практыкі паказальнага кармленьня малочнай жывёлы ў Глускім раёне*).

Карова з удоем 75 вёдзер малака лічыцца сярод сялянства з добрым гадавым удоем. Але гэта далёка ня так. Удой у 75 вёдзер малака вельмі нізкі. Гэтакая карова можа ў лепшым выпадку ледзь-ледзь зьвярнуць выдаткі на сваё харчаваньне, прыбытку-ж ад яе чакаць нельга. Калі мы хочам павялічыць прыбытак ад малочнай жывёлы, дык у першую чаргу мы павінны павялічыць удойлівасьць каровы. Гэта магчыма пры пастаноўцы правільнага кармленьня.

З мэтаю азнаямленьня насельніцтва з такім кармленьнем жывёлы, у кожным раёне аграномы вядуць досьледы паказальнага кармленьня. Тут кожны селянін назірае за ходам кармленьня, вучыцца таму, як трэба вясьці яго, пазнае недахопы, якія маюцца ў кармленьні кароў сялянамі і, адначасова, бачыць тую карысьць, якую магчыма атрымаць пры правільным кармленьні.

У 1927 г. па Глускаму раёну было праведзена 2 досьледы паказальнага кармленьня над 10 каровамі. Па кантрольнаму вучоту высьветлілася, што ў сялянскай гаспадарцы ў суткі на адну карову скармліваюць саломы—17,52 фун., сена—14,63 фун., мякіны—4,11 фун. і бульбы—5,1 фун.

З гэтых лічбаў мы бачым, што сяляне кормяць кароў, галоўным чынам, гуменнымі кармамі, спажыўных-жа кармоў і кораньплодаў зусім не даюць. Пры гэтым кармленьні карова, бязумоўна, ня можа даваць шмат малака і сярэдні сутачны ўдой да досьледу быў 4,94 фун. Пры

паказальным-жа кармленьні ў суткі на адну карову, у сярэднім, сталі даваць саломы—4,84 ф., сена—9,14 ф., мякіны—4,92 ф., макухі—1,97 ф. і бульбы—8,92 ф.

Цяпер мы бачым, што пры паказальным кармленьні мы зьнізілі ў сутачнай дачы порцыю грубых кармоў, а павялічылі дачу спажыўных і сталі даваць болей бульбы. Пры гэтым кармленьні ўдой павялічыўся ад 8,9 фун. да 12,5 фун. малака.

Каб высьветліць пытаньне, ці карысна такое кармленьне, браліся мясцовыя цэны на ўсе кармы і аказалася, што пры кармленьні да досьледу ўся дзенная дача корму ў сярэднім каштавала 33,2 кап., а малако каштавала самаму гаспадару таксама 33,2 кап., гэта выходзіць, што 1 пуд яго каштаваў 1 р. 40 к. Пры другім правільным кармленьні сутачная дача каштавала даражэй—38 кап., але затое, і малака палучалася 12,5 фун. Пры пераводзе на пуд сабекошт 1 пуда малака абойдзецца ў 1 руб. 21 кап. Выходзіць, што малако падзешавела на 28 кап. у пудзе. Гэта гаворыць аб тым, што карысна карміць жывёлу па нормах згодна жывой вагі каровы і ўдою малака.

М-ка Глуск. Аграном **Шульман**.

---

# Правільнае атрыманьне і захаваньне малака.

Малако вырабляецца ў малочных залозах (вымені) жывёлы і прызначана прыродай для пітаньня нараджоных дзяцей. У сувязі з гэтым у склад малака ўваходзяць усе тыя пажыўныя матэрыі (бялкі, тлустасьць, цукар, мінэральныя солі і вітаміны), якія патрэбны для разьвіцьця цела жывёлы, а таксама і чалавека. Адсюль зразумела, чаму малако і яго прадукты займаюць такое шырокае прымяненьне ў харчаваньні людзей. Зьяўляючыся добрай стравай для чалавека малако таксама падрыхтоўвае найлепшы продукт (пажыўны асяродак) для жыцьця і размнажэньня розных відаў бактэрый. Большасьць гэтых бактэрый вельмі шкодны для чалавека і выклікаюць у яго, асабліва ў дзяцей, шмат розных хвароб. Больш за ўсё бактэрый у малаку бывае ўлетку, у цёплую пагоду.

### Адкуль у малако пападаюць бактэрыі?

Сама жывёла, ад якой атрымоўваецца малако, можа заражаць яго шкоднымі бактэрыямі. Хворая жывёла дае дрэннае малако, якое часта зьяўляецца крыніцай хвароб для чалавека і здаровае жывёлы. Напрыклад, праз малако ад кароў можа распаўсюджвацца на людзей тубэркулёз (сухоты), яшчур, сібірская язва і інш. хваробы. Таму ад хворае жывёлы малако не патрэбна ўжываць у харчы, а лепш яго добра пракіпяціць і скарміць парасятам альбо сьвіньням. Тым больш непатрэбна такое малако, альбо атрыманае з яго масла прадаваць другому чалавеку, які нічога ня ведае, ужывае яго ў харч, як дабраякаснае. Яшчэ горш, калі ад хворае каровы малако здаюць у малочную арцель, дзе яно заражае і астатняе добрае малако.

### Чыстата і ахайнасьць неабходны для атрыманьня здаровага малака.

Загразьненае вымя і паверхня цела жывёлы зьяўляюцца крыніцай, адкуль бяруцца бактэрыі ў малако. Нават установлена, што бактэрыі з паверхні вымені пранікаюць у сыскі і ў далейшым, пры даеньні,

могуць заражаць усё малако. Каб гэтага ня здарылася, патрэбна першыя каплі малака здойваць на зямлю, вымя патрэбна падмываць вадой і абціраць ручнікам. Пры даеньні хвост каровы трэба прывязваць к назе, бо, махаючы хвастом, яна часта загразьняе малако, а разам з гразьзю ў малако пападаюць і бактэрыі. Ні ў якім разе не патрэбна даіць бруднымі рукамі і змачваць пры дойцы малаком пальцы. Надоенае малако патрэбна хутчэй убіраць з хлява—і зараз-жа працадзіць яго праз чыстое палатно, а яшчэ лепш праз ватны кружок, які накладваецца на рашотку звычайнай цадзілкі.

**У забруджанай малочнай пасудзе заўсёды вядуцца шкодныя бактэрыі, якія заражаюць малако.**

На дне дайніцы, асабліва ў яе рубчыках, пры неакуратнай мойцы застаюцца кавалачкі гразі і ствapoжанае малако, у якіх кішаць розныя бактэрыі. Асабліва гэта назіраецца ў драўлянай пасудзе, якую амаль зусім ня можна чыста вымыць, бо гразь заліпае ў шчэліны. Таму дайніцы патрэбна ўжываць толькі мэталічныя, лужонага жалеза.

Вопытным шляхам устаноўлена, што ў адным куб. сантымэтры малака мелася бактэрый:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Малако з мэталічнай | пасуды | ад | 22 да | 1690 шт. |
| „ „ драўлянай | „ | „ | 25600 „ | 279000 „ |

Пасьля дойкі пасуду трэба добра вымываць спачатку халоднай вадой і шчоткай, а потым гарачай з надбаўкай невялікай колькасьці соды, альбо звычайнага попелу, потым трэба вымыць гарачай вадой і спаласнуць некалькі раз халоднай вадой. Вымытую пасуду трэба добра прасушыць і праветрыць,—можна павесіць уверх дном на дварэ на чысты колік. Асабліва трэба добра мыць гліняныя гарлачы, у сьценках якіх таксама заводзіцца гразь і бактэрыі. Лепш за ўсё выпарваць іх вадой і гарачым каменьнем.

**Ахаладжэньне, альбо кіпячэньне малака—зьнішчае бактэрыі.**

Зараз-жа пасьля працэжваньня малако трэба як мага хутчэй ахаладзіць—паставіць пасуду з малаком у вушат з халоднай вадой і з лёдам. У кіпячоным малаку амаль зусім няма бактэрый, але з паветры яны зноў пападаюць у малако і зараз, як яно крыху астыне, бактэрыі пачынаюць хутка размнажацца. Пагэтаму і кіпячонае малако патрэбна ахалоджваць і захоўваць на холадзе.

Прымаючы пад увагу, якую шкоду прыносіць забруджанае малако ў арцельным сыраварэньні і масладзельлі, зараз Акрза, сумесна з Сельсаюзам, праводзіць пры 6 малочных арцелях акругі конкурс на чыстату малака. Сялянкі, якія ў працягу конкурсу будуць здаваць чыстае і дабраякаснае малако, атрымаюць прэміі і на агульных сходах пайшчыкаў арцелі будуць адзначаны і прозьвішчы гаспадынь захоўваючых чыстату.

Адначасова будуць таксама абвешчаны і тыя гаспадаркі, якія ў арцель здаюць недабраякаснае малако.

Зоотэхнік **Шавека.**

г. Ворша,
Акруговы Зямельны Аддзел.

# Як дапамагчы жывёле, калі яна ўдавілася.

### Ад чаго гэта здараецца.

У жывёлы часта наглядаюцца выпадкі, што пры кармленьні яе карняплодамі або бульбай апошняя застравае ў горле жывёлы або ў страваходзе. Асабліва гэта здараецца тады, калі жывёла чаго-небудзь спужаецца, або хапае харч, не пержоўвае яго. Найчасьцей гэткія здарэньні бываюць у рагатае жывёлы і пераважна ўвосень, калі пасьпее і выбіраецца гароднiна.

### Як пазнаць гэту немач.

Пазнаецца гэта немач адразу, таму што жывёла, якая ўдавілася, пачынае сьлініць, выцягвае галаву і шыю, выглядае спужанай, стараецца кашлянуць, цяжка дыхае, а пры піцьці вады—вада выліваецца назад; нарэшце жывёла пачынае бляваць, задыхаецца і калі не дапамагчы ёй, то зараз-жа можа прапасьці.

### Як дапамагчы хворай жывёле.

У выпадку затрыманьня ў страваходзе жывёлы якога-небудзь корму, патрэбна хуткая дапамога. Калі прадмет, якім удавілася жывёла, знаходзіцца недалёка ад глоткі і яго ўдаецца лёгка абмацаць рукой, то, не марудзіўшы часу, трэба ўліць у горла жывёлы поснага масла з бутэлькі, прасунуўшы горла бутэлькі ў рот жывёлы з боку, а галаву ў гэты час трэба крыху падняць уверх. Потым трэба той прадмет, якім жывёла падавілася, старацца выціснуць назад шляхам паглажваньня або прыцісканьня пальцамі з абодвых бакоў. Калі што-небудзь застрала далёка ў страваходзе, тады трэба старацца прапіхнуць застраўшы прадмет у страўнік. У такіх выпадках трэба безадкладна зьвярнуцца да вэтэрынара.

Калі-ж блізка няма вэтэрынара, а жывёла вымагае хуткае дапамогі трэба зрабіць наступнае: узяць які-небудзь тонкі прут, або кавалак тоўстага дроту і сагнуць яго паўкругам. На адным канцу дроту загнуць кальцо і да гэтага кальца навязаць пучок дробна нарваных мяккіх трапачак, абвязаўшы іх чыстым палатном. Пучок гэты трэба памазаць посным маслам і асьцярожна прасоўваць у страваход жывёліне, для таго трэба падняць ёй галаву, адкрыць рот і выцягнуць крыху язык на бок. У гэты момант, не сьпяшючыся, асьцярожна прасоўваюць прут з навязаным пучком у рот, праводзячы яго па нёбу роту і ціха прапіхаюць ў страваход.

Калі пучок гэты ўпіраецца ў прадмет, які застраў у горле, трэба іпацху націскаць на яго, стараючыся прапіхнуць яго ў страўнік, але гтэа трэба рабіць вельмі асьцярожна. Калі прадмет не ўдаецца прапіхнуць з першага разу, то трэба прут выняць з горла, даць жывёліне адпачыць і цераз паўгадзіны зноў намачыць пучок маслам і паспрабаваць прапіхнуць прадмет. Часта з другога разу гэта ўдаецца зрабіць і выратаваць жывелу ад сьмерці. У рагатай жывёлы гэта рабіць лягчэй, чым ў коняй.

Калі-ж дапамагчы жывёліне не ўдаецца, і блізка няма вэтэрынарнага пункту, то застаецца толькі прырэзаць жывёліну і скарыстаць на мяса, калі гэта рагатая жывёла, або ўбіць, каб спыніць мучэньні іншае жывёлы.

Вэтэрынарны ўрач **М. Жарын.**




## Хімічная апрацоўка дрэва.

Ня ўсе ведаюць, што шмат па якіх галінах хімічнае прамысловасьці ідзе апрацоўка драўніны і размаітае яеператварэньне.

Калі спытаць нашых сялян, што робяць з дрэва, дык, напэўна большасьць з іх абмяжуецца паказаньнем толькі такіх прадметаў, якія непасрэдна дабываюцца з дрэва на гаспадарчыя патрэбы. А, між тым, з дрэва робіцца шмат якіх рэчаў, часам такіх што вам і ў галаву ня прыдзе, што гэта з дрэва. Узяць, напрыклад, паперу, на якой надрукован гэты артыкул, кінафільму, якую вы бачылі ўчора ў кінатэатры, штучны шоўк, з якога вырабляецца шмат чаго—гэта толькі некалькі прыкладаў таго, што здабываецца з драўніны. Усяго пералічыць немагчыма.

Хімічная апрацоўка дрэва бязумоўна будзе мець вялікае значэньне для нашай Рэспублікі з яе ляснымі багацьцямі. Прымаючы пад увагу нашы вялізныя лясныя абшары (да 4-х міл. дзесяцін), можна быць упэўненым, што пры правільнай лясной гаспадарцы і належнай пастаноўцы хімічнае апрацоўкі дрэва, г. зн. пры скарыстаньні ўсіх лесаматар'ялаў, наш лес будзе аднэю з галоўнейшых крыніц народнага дабрабыту. Як прыклад, можна ўзяць Швэцыю, невялікую, але багатую на лес старонку, якая займае першае месца на сусьветным лясным рынку і задавальняе ў сучасны момант каля паловы сусьветнае патрэбы на драўніну і на прадукт яе апрацоўкі—цэлюлёз.

У нас на Беларусі, таксама як і ва ўсім Саюзе, хімічная апрацоўка дрэва ўжываецца пакуль што яшчэ мала, і галоўная ўвага зьвяртаецца на прадукты м э х а н і ч н а е  а п р а ц о ў к і лесаматар'ялаў, як лес для будоўлі, шпалы, клёпка, запалкі і г. д.

Хімічная апрацоўка мае сваёй мэтай перарабіць драўніну на зусім новыя, па сваіх асаблівасьцях, рэчы. У нас пашыраным спосабам хімічнай апрацоўкі зьяўляецца так званая, с у х а я  п е р а г о н к а дрэва. Пад гэтаю назваю разумеецца расклад драўніны на яе састаўныя часткі. Каб дасягнуць гэтага, драўніну становяць пад уплыў высокай тэмпэратуры. Але, каб дрэва не загарэлася, направаюць яго ў асобных печах, куды ня мае доступу паветра. З драўніны выходзіць тады жыжка (смала), а таксама газавая матэрыя (шпігінар і інш.). Апроч таго, застаецца цьвярды д р э ў н ы  в у г а л ь.

На Поўначы паляць іглястыя дрэвы, галоўным чынам, з мэтаю здабытку с м а л ы  і  ш п і г і н а р у.

Перад вайной смалярства, якое знаходзілася выключна ў руках саматужнікаў, давала за мяжу смалы на 5 мільёнаў рублёў у год.

Пераганяючы далей дрэўна-вугальную смалу, можна атрымаць шэраг вельмі каштоўных прадуктаў, напрыклад: д р э ў н ы  с ь п і р ы т у с,

воцатавую кісласьць, мураўіную кісласьць, розныя пахучыя эфірныя маслы і. г. д. Яшчэ адзін каштоўны прадукт—каніфоль.

Пры падсечцы іглąстых парод апошнія выдзяляюць смалісты сок—«жывіцу». Пры перагонцы жывіцы з парай вады адганяецца шпігінар, а на дне застаецца каніфоль. Каніфоль ўжываецца для праклейкі паперы, у мылаваранай справе, для вырабу сяргуча і лакаў.

Сухая перагонка дрэва робіцца ці саматужным спосабам, ці на невялічкіх заводах з простым абсталяваньнем.

Што да пераапрацоўкі драўніны на цэлюлёзу для вырабу паперы, дык тут трэба ўжо грунтоўнае фабрычнае абсталяваньне, і гэта зьяўляецца буйнаю галінаю прамысловасьці.

Да сярэдзіны XIX стагодзьдзя папера выраблялася з ануч. У сучасны момант амаль што ўся папера выробляецца з драўніны і толькі лепшыя яе гатункі выробляюцца з мешаніны цэлюлёзнай і трапачнай масы. На першы погляд здаецца дзіўным, як з дрэва можна зрабіць паперу. Прыпомнім, аднак, што дрэва, таксама як лён і воўна, складаецца з валакон, праўда, больш кароткіх. Папера прадстаўляе з сябе перапляценьне гэтых валакон, нібы лямец, і ўся задача ў тым, каб выдзеліць іх з дрэва. Звычайна заводы, якія выпрацоўваюць дрэўную масу, будуюцца там, дзе ёсьць танная вадзяная энэргія. Робіцца гэта дзеля таго, што тут трэба затраціць шмат мэханічнай энэргіі, каб расьцерці дрэва, а таксама трэба шмат вады для разводу дрэўнай масы.

Штучны шоўк па свайму выгляду амаль што не адрозьніваецца ад натуральнага, хаця і ня мае з ім нічога супольнага і складаецца з цэлюлёзы. Недахоп штучнага шоўку ў тым, што ён ня вельмі трывалы пры сьціրцы, але за тое ён вельмі танны, а за апошнія часы і трываласьць яго ўзмацнілася. У СССР ёсьць толькі адна фабрыка штучнага шоўку, гэта пад Масквою ў Мыцішчах.

З вышэйпаданага відаць, якое вялікае значэньне мае хімічная апрацоўка дрэва, і як разнастайна тая вытворчасьць, што пабудована на дрэве, як на сыравіне.

Галоўнаю задачаю нашае разгорнутае цяпер прамысловасьці зьяўляецца тое, каб нашы запасы драўніны ня вывозіліся неапрацаванымі, як гэта робіцца цяпер, на фабрыкі Заходняй Эўропы, а пераапрацоўваліся ў сваёй старонцы на ўсе тыя вырабы, для якіх насельніцтва нашай Рэспублікі прадстаўляе глыбокі рынак.

Лёзунг «індустрыялізацыя краю» павінен узьняць гэтую надзвычайна важную для нас галіну прамысловасьці на вышыню, якую яна павінна займаць у «лясной старонцы»—ува ўсім Саюзе, а таксама і на Беларусі.

**Б. Ліпкін.**

Горкі, Акадэмія.

---

# Аб хатнім грыбе (Merulius lacrymans).

**Хатнім грыбам ці сьлязьлівай губай, завецца грыб, які сваім месцазнахаджэньнем, а таксама і месцам дзеяньня мае хату ці іншую цёплую пабудову. Сьлязьлівай губай ён завецца з прычыны таго, што на ім заўсёды знаходзяцца кроплі вадкасьці ў выглядзе сьлёз ці расы.**

**Хатні грыб псуе будаўніну ў хаце, у варыўні і ў іншых будовах. Маюцца дакладныя весткі, што такі грыб знаходзіцца і ў лесе і нават далёка ад жыльля.**

Хатні грыб можна пазнаць па яго надта характэрных шнурох грыбні. Гэтыя шнуры цягнуцца ад грыбні на значную адлегласьць, падымаюцца, ў некаторых выпадках, з першага на другі і нават на трэйці паверх, ці наадварот, з 3-га на першы. Дзякуючы грыбным шнуром, хатні грыб мае магчымасьць захапляць новыя плошчы здаровай драўніны на значнай адлегласьці ад свайго месца знахаджэньні і там руйнаваць драўніну.

Шнуры грыбні маюць больш менш акружы выгляд, у сьвежым відзе белыя, баўнавідныя з паверхні. Пасьля адміраньня грыба шнуры робяцца шэрымі ці чорнымі. Маладыя шнуры добра гнуцца і досыць цяжыстыя, старыя крохкія і лемяцца.

Па гэтых шнурох хатні грыб можа падымаць ваду, якая грыбу неабходна дзеля яго разьвіцьця, на значную адлегласьць: праз гэта хатні грыб можна спаткаць і ў такім месцы дзе вада адсутнічае.

Хатні грыб распаўсюджваецца сарнікамі (спорамі, якія па велічыне схожы з пылам) Зароднікі ня што іншае, як насеньне грыба. Пасьля высыпаньня зароднікі разносяцца (чалавекам, мышамі, ветрам) і папаўшы ў адпаведныя ўмовы (цяпло і вільгаць) прарастаюць, даючы пачатак новаму грыбу. Трэба адзначыць, што ўсходжасьць зароднікаў захоўваецца досыць доўгі тэрмін.

Хатні грыб найбольш небясьпечны з руйнавальнікаў драўніны ў кладоўках; маецца цэлы шэраг прыкладаў, калі новыя хаты амаль што дашчэнту былі зьедзены гэтым злачынцам, ня кажучы аб столі і падлозе, якія надта часта зьнішчаюцца хатнім грыбам.

Драўніна, на якой дзейнічаў грыб, робіцца крохкай падобнай да торфу, пры даторкваньні распадаецца і ў далейшым служыць свайму прызначэньню ня можа.

Хатні грыб дзеля свайго разьвіцьця патрабуе досыць высокую тэмпэратуру (каля 22° С.) і ў значным ліку вільгаці. Вось чаму лепш за ўсё хатні грыб адчувае сябе там, дзе гаспадыні не шкадуюць вады на падлогу (цабарка, вёдра з іх сталым месцам стаянкі), дзе бялізну параць ў хаце і г. д. Ня дрэнна можа быць яму і на драўніне хаты якія пабудованы з сырога матар'ялу. Трэба сказаць, што хатні грыб надта любіць драўніну мяккіх павод: елкі, бярозы, ліпы, хвоі і амаль што ня дзейнічае на драўніне дуба: тут шкодзіць яму дубільны „сок" (гарбарная матэрыя). Прысутнічаньне грыба ў хаце дрэнна дзейнічае і на здароўе людзей. Маецца думка, што захварэньне незьлячымай хваробай—ракам, зьвязана з прысутнічаньнем у хаце гэтага грыба. У той хаце, дзе ёсьць грыб, заўсёды надта вільготнае паветра, бо папсаваныя бярвеньні маюць асаблівасьць набіраць у сябе ваду, як губка, а таксама легка і аддаваць яе ў паветра.

З хатнім грыбам неабходна весьці рашучую барацьбу, якая павінна ісьці па двух напрамках. Першы і самы лепшы сбосаб барацьбы—гэта папярэднія мерапрыемствы пры пабудовах, у сэнсе захаваньня будовы ад занясеньня ў яе хваробы—зароднікаў хатняга грыба. Другі—зьнішчэньне грыба ў час яго паяўленьня, а таксама і дзейнічаньне. У мэтах засьцярогі—можна раіць добрае высушваньне будаўнічага матар'ялу, а таксама рабіць люфы ў падмуроўцы з мэтай добрага праветрываньня. Дзеля засыпкі паміж сьцен ці пад падлогу, дзе гэта неабходна, трэба браць здаровы, добра прасушаны матар'ял, стружкі, апілкі, вугаль і г. д.).

Памятаючы, што вільгаць хатняму грыбу неабходна, трэба старацца мець у хаце сухое паветра.

Калі ўжо грыб пасяліўся, і яго прысутнічаньне відавочна, дык неабходна зьнішчыць яго—вырэзваючы хворыя часткі драўніны, ня шкадуючы на гэта сродкаў, паколькі ідзе рэч аб захаваньні ўсёй будовы. Бо калі застаецца хоць кавалачак грыбні, то яго існаваньне забясьпечана, а разам з гэтым і далейшае руйнаваньне будовы.

Зьнішчэньне грыба трэба рабіць як можна хутчэй, каб ня даць яму распаўсюджвацца, зразумела ,што хворую грыбам драўніну трэба зараз-жа спаліць.

Пасьля зьнішчэньня грыба памяшканьне неабходна дзяржаць у сухасьці і добра праветрываць.

У мэтах барацьбы з хатнім грыбам існуе многа хімічных сродкаў, да якіх трэба падыходзіць больш асьцярожна.

Цікава, што драўніна, якая праляжала ў вадзе доўгі час, амаль што траціць магчымасьць „хварэць“ хатнім грыбам. Асабліва гэта датычыцца елкі, у меншай меры да хвоі. Толькі вымочваньне вышчалачваньне цягнецца надта доўга (год, два), чаму практычнага значэньня мець ня можа.

Лесаводы—**Яськевіч і Гначарык.**

---

## Паштовая скрынка.

**Ф. Д. Парамонаву.** Апісаньне гаспадаркі для конкурсу на лепшы ўраджай, пераслана ў газэту „Беларуская Вёска“.

**Сел. А. Карунчык.** Ліст з запытаньнем, чаму Вас ня вызвалі на зьезд сялян-дасьледчыкаў, перасланы ў Бюро Сялян-Дасьледчыкаў пры Н.-Д. І. Калі Вы лічыцеся ў гэтым аб'яднаньні, дык гэта недарэчнасьць, што не паведамілі Вам аб зьездзе, а калі не, дык трэба ў гэту арганізацыю ўвайсьці. Адрас Бюро Сялян-Дасьледчыкаў: Менск, Шырокая, 28.

**Сел. М. Сохарку.** Для таго, каб забясьпечыць гаспадарку ад такога выпадку, які здарыўся ў гэтым годзе, калі прапала ўся канюшына (а сеецца яна ў Вас толькі з адным годам карыстаньня), можна раіць севазварот для Вашай гаспадаркі, які апісвае ў сваім артыкуле ў гэтым нумары т. П. Грабузаў. Глеба Вашага пасёлку і іншыя ўмовы гаспадаркі ўпаўне падыходзяць для ўвядзеньня гэтага севазвароту.

**Сел. К. Л. Альховічу.** Сьпіс пладовых выхавальнікаў зьмешчаны ў № 4 „Плуга“, красавік месяц г. г. Пасадачны матар'ял прадаецца як на месцы, так і па пісьмовых заказах. Згодна пастановы НКЗ, для засадкі высялковых і групавых садоў, прышчэпы адпускаюцца ў першую чаргу. Для атрыманьня крэдыту на пасадку групавога саду, трэба зьвяртацца да свайго раённага агранома.

---

**Увага.** У № 9 часопісі, подпіс пад артыкулам на страніцы 38 напісана: Асыстэнт, а трэба—Асьпірант.

# ПРАЦА НА БАЛОЦЕ

## Аб расчыстцы сенажацей.

Амаль што ў кожнай вёсцы Беларусі маюцца так званыя няўжытковыя землі. Частка гэтых зямель падзелена паміж сялянамі і апошнімі прыстасавана пад сенажаць. Большасьць-жа іх знаходзіцца ў агульным карыстаньні вёскі. Плошча атульнага карыстаньня ў сваю чаргу падзяляецца на пасьвішча і на зусім кінутыя землі. Да іх належаць балоты дрыгвянога тыпу, купнякі, паросьлі лазьнякоў, пярэгрузы, замшэлыя балоты, задзярнеўшыя сіўцовыя і пячковыя глебы, на якіх часта ні трава, ні кусты не растуць.

У натуральным сваім стане гэтыя землі даюць мала карысьці, а некаторыя і зусім нічога не даюць, бо на іх, як напрыклад, на дрыгвяныя балоты, ня толькі скаціне, але і чалавеку зайсьці небясьпечна.

А між тым усе гэтыя землі маюць значную каштоўнасьць. Няўжытковыя землі можна прыстасаваць ня толькі пад добрыя сенажаці ці пад выпас жывёлы, а нават пад пасеў збожжа і гародніны.

Сухая вясна і лета гэтага году склалі вельмі спрыяючыя ўмовы для працы на балоце. Трэба карыстацца гэтым і зрабіць хоць больш простыя палепшаньні, хоць-бы выраўнаць куп'ё на сенажацях. Для правядзеньня працы выраўніваньня куп'я на значнай плошчы, мэтазгодна ўжываць прыстасаваныя да гэтага прылады, т. зв. куп'ярэзы, невялікі-ж кавалак сенажаці ўпаўне можна выраўняць звычайнай грабарнай рыдлёўкай. Для посьпеху праца праводзіцца двума рабочымі. Невялікія, хоць і з карчом, але тонкім у сярэдзіне купіны высечы лёгка і аднаму, большыя-ж і з тоўстым пнём сьсекчы аднаму марудна, а часам і немагчыма. А ў дваіх, пасьля таго як абсячэцца купіна з чатырох бакоў, адзін бярэ за чуб купіну і цягне да сябе і такім чынам прыпадымае працілеглы бок па месцу першае насечкі, а другі падсякае далей па таму-ж месцу, аж пакуль не сьсячэ зусім. Сьсечанае куп'е складаецца ў кучы, якія пасьля высыханьня можна скарыстаць на паліва, альбо зрабіць з іх добры кампост. На мясцох сьсечаных купін, вясною неабходна падсеяць мешаніну траў.

Замшалыя-ж сенажаці трэба добра прабаранаваць з прыстасаваных для гэтага барон, ды баранаваць трэба не шкадуючы, аж пакуль увесь мох вычашацца. Вясною тут таксама трэба падсеяць мешаніну траў.

Другая праца, якую трэба правесьці ўвосень, гэта расьцярэбліваньне як ужо існуючых сенажацей, якія за апошнія гады ў многіх мясцох зарасьлі рознаю порасьлю, а таксама пашырыць новыя няўжытковыя землі пад сенажаці. Для гэтага можна карыстацца ня толькі часам да замаразкаў, а і тады, калі падмерзлае балота трымае чалавека. Праўда, пры расьцярэбліваньні на замёрзлым балоце не прадстаўляецца магчымым добра выцягваць карэньні кустоў, таму ад іх больш зьяўляецца паросткаў у наступным годзе, але праца пры гэтым ідзе значна хутчэй.

Пры расчыстцы пад сенажаць, з простых прылад раіцца жалезны трохзубец, спэцыяльна зроблены ў кузьні і насаджаны на тоўстую (залежна якія расьліны прыходзіцца выцягваць) жэрдку, альбо нятоўстае бервяно. Крыху падсекшы карані дрэўца, падбіўшы зубцамі пад яго



Жалезны трызубец для вырываньня карчоў і хмызьняку.

і падважваючы праз бервяно, невялікія дрэўцы і кусты значна спрытней і лягчэй вырываць. Я прыпамінаю, якая была-б палёгка пры распрацоўцы сенажаці ад ужываньня гэтай прылады, калі мне прыходзілася з бацькам расьцярэбліваць балота на палесьсі, але ніхто гэтага тады не дапарадзіў.

Аграном **С. Карась.**

---

## Пытаньні і адказы.

Пытаньне. Прашу рэдакцыю даць адказ на такое зьявішча: капуста ў многіх мясцох Чырвона-Слабодзкага раёну, у тым ліку і на нашым гародзе, не завіваецца ў качаны. Лісьця-ж яе разрасьліся надта добра. Пры вырываньні капусты на каранёх якой-небудзь хваробы, напрыклад, кілы, не наглядаецца. Капуста ў нас розных сартоў, у тым ліку і браўншвэйская. Якую параду трэба даваць, каб пазбавіцца ад такога выпадку ў наступным годзе. (М. А. М-ва, Чырвоная— Слабада).

Адказ. Ня бачыўшы расьлін, даць пэўны адказ не магчыма. Тут можа быць шэраг прычын: якія небудзь вельмі дробныя, амаль няпрыкметныя, энтамолёгічныя шкоднікі, магчыма лішак азоцістых угнаеньняў, якія занадта пагналі расьліны ў рост, кароткае-ж і халоднае лета не дало магчымасьці расьліне нармальна разьвівацца, што і адбылося на несвоечасовым завязваньні галовак; могуць быць і іншыя прычыны. Наогул, такія зьявішчы бываюць вельмі рэдка. Пажадана было-б паказаць гэтыя расьліны на месцы аграному, каб ён разглядзеў іх дэталёва і даў падрабязнае апісаньне гэтага зьявішча, спосабаў культуры і інш.

Інспэктар па садоўніцтву **К. Хабэнка.**

**Выдадзьне Наркамзему.**

**Адказны рэдактар: ЗЬМ. ПРЫШЧЭПАЎ.**
**Рэдактар—рэдкалегія.**

# ЗЬМЕСТ.






Менск, друкарня БДВ. Зак. № 95—1600. Галоўлітбел № 43.



## ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1928/29 год

на часопіс

**Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту Сельскае і Лясное Гаспадаркі імя У. І. ЛЕНІНА, Наркамзему і Саюзу с.-г. і Лясных Працоўнікоў**

# „Сельская і Лясная Гаспадарка“

ў форме двухмесячных выпускаў кніжнага формату.



**МЭТА ЧАСОПІСІ:** асьвятляць пытаньні сельскай і лясной гаспадаркі, грунтуючыся на выніках працы навуковых і дасьледчых устаноў Беларусі і паасобных дасьледчыкаў, на апошніх дасягненьнях сусьветнае навукі.

**ЧАСОПІСЬ РАЗЬЛІЧАНА:** на масавага зямельнага спэцыялістага (агранома, жывёлавода, лясьнічага, каапэратара, каморніка мэліоратара і г. д.).

**ЧАСОПІСЬ ПРЫСЬВЕЧАНА:** арыгінальным экспэрыментальным працам па розных галінах аграноміі, жывёлазнаўства, лясной справы і па сумежных галінах прыродазнаўства; агляду найгалоўнейшых прац у гэтых галінах і рэфэратам саюзных і чужаземных навукова-аграномічных прац; навуковай інформацыі; сельска-гаспадарчай хроніцы; бібліографіі і інш.

**У ЧАСОПІСІ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ:** Загадчыкі аддзелаў, вучоныя спэцыялісты Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту, прафэсары, дацэнты і выкладчыкі Беларускай с.-г. Акадэміі, працаўнікі дасьледчых станцый, зямельныя працаўнікі, эканомісты і аграномы БССР, сяляне-дасьледчыкі, сяляне-культурнікі і інш.

Артыкулы памерам каля $^1/_2$ друкаванага аркуша прымаюцца ад аўтараў на ўсіх мовах і друкуюцца на беларускай мове. Рукапісы павінны быць выразна напісаныя на аднэй староньцы аркушу.

Рысункі і малюнкі павінны быць выкананы выразна на асобных лістках у павялічаных памерах, альбо зьнятыя дужыя фотографіі. Месца малюнкаў у тэксьце павінна быць сьцісла вызначана і лік іх не павінен перавышаць аднаго на чатыры старонкі тэксту.

### Падпісная плата:

| | |
|---|---|
| На год (6 нумароў) 5 р. | За ўвесь 1927 год (3 нумары) . . . 2 р. 50 к. |
| На 6 м-цаў . . . 2 р. 50 к. | Паасобны нумар . . 1 р. 20 к. |

### Падпіска прымаецца:

**у Выдавецтве НКЗ (Савецкая 71, Менск) і на кожн. пошце**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: Менск, Шырокая, № 28.**

ЦАНА 20 к.